

Страчаны юбілей, або ў каго перавярнуліся тураўскія мядзведзі с.6-8




З любоўю да ўлоння

16 старонак

№4 (19)
Жнівень 1999

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік




Сёння трэба памятаць, што навакольнае асяроддзе неабходна цаніць, а не звыкла расцэньваць яго нібы сродак задавальнення нашых патрэбаў. У гэты дзень належыць задумацца над тым, што навакольнае асяроддзе не павінна ўспрымацца як нешта дадзенае, бо калі мы не возьмем за святы абавязак яго ахову, заўтрашні дзень можа проста не наступіць.

... У рэшце рэшт, збядненне водных багаццяў, скарачэнне біяразнастайнасці, разбурэнне экасістэмаў і змяненне клімату будзе мець катастрафічныя вынікі для ўсіх нас, незалежна ад таго, дзе мы жывём. Гэта азначае, што для навакольнага асяроддзя адказнасць, роўнасць і салідарнасць гэтак жа важныя, як і для сацыяльнай і экалагічнай сфераў.

Уважаючы на тое, што любая дзейнасць чалавека робіць уплыў на Зямлю, а яе стан уплывае на ўсіх нас, у гэтым разе кожны дзень павінен стаць Сусветным днём навакольнага асяроддзя. З гэтага моманту Арганізацыя Аб'яднаных Нацый будзе самым пільным чынам ставіцца да сваіх абавязкаў, што датычаць нашай планеты і яе жыхароў.

З паслання Генеральнага сакратара ААН Кофі Анана з нагоды Сусветнага дня навакольнага асяроддзя

Слова рэдактара

## Вада і цень

Гэтае лета, бадай, я аддаў падарожжам. Змена краявідаў набліжалася да аптымальнай, бо спазорнаю кропкай вандровак было сядло майго ровара. Да гэтай немалаважнай зручнасці дадаў бы і тое, што, абдзіманы сустрэчным ветрыкам, я амаль не зведваў праблемы спёкі й гарачага поту. Словам, я адчуваў пад сабою "кацер", на якім перамяшчаўся па сушы.

Калекцыя ўражанняў досыць багатая. Лясы, пералескі, урочышчы, паркі, ставы. Вёскі, мястэчкі, сядзібы, могілкі, звалкі. Дый проста дарога - стужка асфальту, галерэя прысадаў, неба над гарызонтам.

Калі хацелася піць, я даязджаў да бліжэйшай студні і браў сцюдзёную ваду. Часам, праўда, асабліва ў поўдзень, хацелася ўскочыць у завадзь якой-небудзь рачулкі і акунуцца паміж лілеяў. Але ўсе рэчкі, якія праязджаў, былі закіданыя альбо гумай аўтапакрышак, альбо якім-небудзь іншым, драбнейшым смеццем. Гэта "ахалоджвала", і я працягваў вандроўку сухім.

Бывала, з'язджаў у цень прыдарожнага дрэва, якое выбіраў здаля, быццам чуючы яго спатольны пошум. Але й пад дрэвам не ляжалася, бо ў пяці метрах шчэрылася смеццезвалка або ля камля ледзь не па карэннях праехаўся трактарны плуг.

Я фізічна адчуваў прагалы ценю, калі мой шлях ляжаў з Маларыты на ўкраінскі Шацк. Дзесяткі зрэзаных прыдарожных дрэў не давалі ўжо ценю. Я спыняўся раз-пораз, каб запэўніцца ў неабходнасці гэткага ўкрыжавання. Вонкавых падстаў не знаходзіў. Думалася: ці будуць пасаджаны новыя дрэўцы ўзамен палеглых? Вядома, не толькі ў гэтым месцы, але па ўсёй Беларусі, дзе, не сакрэт, прайшло татальнае выразанне старых дрэваў?

Лета-99 давала ўсім нам вельмі важны й карысны ўрок на засваенне простай, здавалася б, ісціны: вада, як і цень, – каштоўнасці вечныя.

Засваенне горачна-сумнае і запозненае: рэчкі пасушаны, закіданы хламам, атручаны. Па дарозе на Завоссе, дзе радзіма Адама Міцкевіча, я быў сведкам і такой нечаканай сцэны: статак цялушак, як рэзаны, роў ад смагі. Ваду не падвезлі, а канал перасох дазвання. Час, калі ў гэтай мясціне віласяпятляла рачулка, даўно адышоў.

Каб запоўніць прагалы вады, наўзамен натуральным, прыродным крыніцам шмат дзе накапалі штучных ставоў, пераважна для вадапою калгаснага статку. Я бачыў на іх скапычаных берагах дзятву, якая там купалася. Відовішча вартае вялікага жалю.

Сведчу з вандроўкі: не толькі пітной, але й адносна чыстай, дзеля ахалоды цела, вады ў нашым краі значна паўбавілася, сышло ў незва-ротнасць. Прыкметна скарацілася й доля ценю на кожнага з нас. Ці адчулі мы страту, нястачу-прапажу каштоўнасцяў у сваёй хаце адначасна з тым, што адчулі спякоту і смагу гэтага лета?




Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс",
пры фінансавай падтрымцы Прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных нацый у Беларусі.

Лаўрэат еўрапейскай прэміі Генры Форда "За захаванне культурнай спадчыны і ахову навакольнага асяроддзя" 1999 года.

Заснавальнік і рэдактар
Валеры Дранчук



Для кантактаў:
220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16
Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53



"Можа таму, што жыццё, нібы міг, кароткае, на беднай, на вечнай Радзіме жыве чалавек". с.2

"Дамоўныя бакі, жадаючы прысупыніць узмоцнены наступ чалавека на водна-балотныя ўгоддзі і засцерагаючы іх сёння і ў будучыні..." с.3

"Рыхтуецца да друку шэраг Канвенцый, якія альбо ўжо дзейнічаюць у Беларусі, альбо яшчэ не падпісаныя". с.4

"Кожны грамадзянін Беларусі мае права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе, праўдзівую інфармацыю пра яго стан, на кампенсацыю шкоды..." с.5

"Востра паўстае пытанне аб захаванні прыродных комплексаў былога запаведніка, бо змена статусу адчувальна ўзмацніла гаспадарчы прэс". с.8

"Перад сялом дарога пайшла праз лес, але якраз тут шашу перасекла цёмная "жывая" стужка шырынёю каля 20 метраў". с.9

"Каштоўнасць жыцця – адна з найгрунтоўных маральных катэгорый. Але чалавеку важна ўсведамляць не адно сваю каштоўнасць, але й роду "ўсяго жывога", з кім належыць дзяліцца экасістэмай." с.11



"Каля сцяны стаяла згорбленая фігурка хлопчыка гадоў шасці. Ён абапіраўся адной рукой аб сцяну, другая цалкам належала плыні вады". с.12

"Пашпартныя звесткі цар-дуба можна даўно змяшчаць на лепшыя старонкі Інтэрнету". с.14

"Стыль жыцця, заснаваны на высокім узроўні энергаспажывання, несумяшчальны з сапраўднай энергетычнай бяспекай". с.15

"Сто гадоў таму ён стаў плёнам этыка-эстэтычнага дбання гаспадара-землеўласніка, а сёння мясцовыя ўлады спрабуюць вярнуць яму страчаную былую прывабнасць". с.16



*Малюнак: Мікола Сяляшчук*

*Анталогія ў перакладзе з грэцкае мовы значыць **букет кветак.** Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*

## *Хай іншыя жывуць у золаце палацаў,*

## *а мне найлепшы чын – дай Бог застацца у спадчынным гняздзе...*

***Таццяна Сапач***

* * *

Не намі закладзены
гэты маркотны парадак:
на мове чужой гаворыць родны народ,
чужыя народы гавораць на родных
мовах.
Але нам не дадзена іншай Радзімы,
калі
блакітам яе і самотай
спатолены погляд.
І можа таму, што жыццё,
нібы міг, кароткае,
на беднай,
на вечнай Радзіме
жыве чалавек.

***Паўлюк Прануза***

Ц і ш ы н я

У лесе спачывае цішыня.
Чутно, як з сосен сыплецца ігліца.
У небе ні хмурынкі. Чысціня.
І хочацца прыродзе пакланіцца.

І ты свядома прыпыняеш крок,
Ідзеш ціхутка, ды з такім разлікам,
Каб сонейка барвовае – лісток
Не прытаптаць падэшвай чаравіка.

***Ян Каханоўскі***

(1530-1584)

Польшча*

Н а д о м у Ч а р н а л е с с і

О Госпадзі, мой плён –
тваё доўгацярпенне!
Дай мне да сконца дзён
сваё багаславенне.
Хай іншыя жывуць у золаце палацаў,
А мне найлепшы чын –
дай Бог застацца
У спадчынным гняздзе, і дай
здароўя целу,
І чыстых дум, і чашы не збяднелай,
І радасці ў сям'і, і чыннасці людскае –
Я гэткага б жадаў на старасці спакою!

***Пятро Бітэль***

У н у к у

Любіць сваё – зусім не значыць
Чужое ганіць, адмаўляць.
Вось за чужым свайго не бачыць,
Не вывучаць, не шанаваць –

Злачынствам будзе без сумнення,
Бо ёсць такі закон жыцця:
Шануй чужое аж да пакланення,
Сваё любі да самазабыцця.

***Ігар Шклярэўскі***

* * *

Светлай вады з ручая набярэш,
Мутнай вады на парог прынясеш, —
з думай нячыстай...

Мутнай вады з ручая набярэш,
Светлай вады на парог прынясеш, —
з чыстаю думай...

*Пераклад на беларускую:*
**Валеры Дранчук, ** Янка Сіпакоў*



*Фота: Неруш-пр...*

***Леанід Пранчак***

Н я м а б а л о т а

Няма крыніц,
Няма ракі.
Засохла лотаць.
Няма за вёскай асакі.
Няма балота.

Стары калодзеж перасох.
Збіваю ботам
Асот, драсён, чартапалох...
Няма балота.

Чакаю ў роспачы вясну.
Гняце самота.
Як растлумачу я буслу:
Няма балота?..

***Ніна Мацяш***

***

Вецер водарыць упарта
Першацветаваю цнотай.
... Накідаюць мне пагарду.
Свет не варты пашаноты.

На стаптаны поплаў выйду –
У сіле шарону ранне.
... Накідаюць мне агіду.
Свет не варт замілавання.

Што мінецца хмараў навісь –
Суцяшэннейка слабое.
... Накідаюць мне нянавісць.
Сэрца плача па любові.

***Мікола Купрэеў***

***

Мне сёння хораша: у ноч
прыйшоў я чысты і багаты,
кладу пад голаў белы корч,
і лес вакол – мае пенаты.

Прыйшоў, агледзеў, лёгка ўпаў.
Мне – лес шуміць,
мне – зоры свецяць!
Адзін, адзін! як Бог! як Пан! –
на ложку свежым з вецця.

І шышкі ўсе мае з ялін
звіняць суладна, як у свята.
Ка мне бярозы прывялі
сваіх беразянятак.

Ім косы-вецце расчашу
сваёй згрубелаю рукою
і ціха казку раскажу,
да іх схілюся галавою.

***Сяргей Грахоўскі***

Д у б о в ы л і с т

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Плывуць у вырай жураўлі і гусі,
Дубовы ліст, у жылках, у расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі.

Яго мая кранаецца рука,
А ён нібыта выкаваны з броні,
І жылка кожная дубовага лістка
Зліласе з жылкай на маёй далоні.

***Віктар Шуткевіч***

"Ч ы р в о н а я к н і г а"

"Чырвоная кніга"
Выдадзена па-беларуску...
Гартаю яе з нейкім сумам
І пачуццём асабістай віны.
Так, нам трэба ахоўваць
Тыя кветкі і жывыя істоты,
Якім пагражае знішчэнне.
Але не меней
Трэба берагчы
У першароднай чысціні
Тую мову,
Якою напісана
Гэта "Чырвоная кніга".

SUMMARY


*The minor homeland ("family nest") theme is dominating in the poetic selection. But the approach of autumn is already felt.*


***Яўгенія Янішчыц***

У ш у м е ж ы т н я г а с в я т л а

Яшчэ расці маёй трывозе
І не любіць – на паўкрыла.
Убачу маму на дарозе
У шуме жытняга святла.

І покуль гэты поўдзень спелы
Дым тарфяны не завалок,
На зрэзе дня – рамонак белы
І пасівелы васілёк.

Снуецца белая сцяжына –
Апошні збег майго сяла.
Гняздзечка птушкі і ажына –
У шуме жытняга святла.

І покуль дыхае планета,
Не вынішчаецца датла
Душа народа і паэта
У шуме жытняга святла.

***Павел Шруб***

* * *

Грукаю ў дзверы:
гаспадар, прачніся –
сохне твой сад,
зарасло палыном тваё поле,
твая рака буцвее ў канале-труне,
рушыцца храм твой.

Дарэмна:
плот высокі,
замок надзейны,
ключ згублены.

Засну пад засохлымі вішнямі
каля парога,
так і не разбудзіўшы
сябе самога.

Заўтра пачну ўсё спачатку.

***Ду Фу***

(712-770)

Кітай**

У а д з і н о ц е

Птах хіжэста-самотны
У небе крыляе бязмежным,
Ціхамірна дзве чайкі
Па рацэ праплываюць пад ім.
На ахвяр з вышыні
Можа камнем упасці драпежнік,
Ды трывогі не ведаюць
Чайкі ніякай зусім.

Нахапляецца вечар,
Ўсцілаецца поле расою,
Клапатліва павук
Павуціну штукуе на плот.
І законы прыроды
Гэтак родняцца з доляй людскою –
Я самотны стаю
Паміж тысячы спраў і турбот.

***З народнага***

***

Да слава табе, божа,
Што мы жыта пажалі,
Што мы жыта пажалі,
У снапочкі павязалі,
У снапочкі павязалі,
У бабачкі пастаўлялі.
Ой, раўняйцеся, копы,
У роўным полі стоячы,
У роўным полі стоячы,
На гуменца гледзючы.

***Валеры Дранчук***

***

На чорным крэпе начы
ўзоры-сляды маіх сноў
шыпшына зялёная
жоўтая цнота суквеццяў
пасярэдзіне птушка
з рахманым крылом
гайдаецца ўверх,
уніз

# КАНВЕНЦЫЯ CONVENTION

* эмблема Канвенцыі

## Аб водна-балотных угоддзях, якія маюць міжнароднае значэнне перш-наперш як месцы сялібішчаў вадаплаўных птушак"
(Рамсарская канвенцыя)

*Нядаўна Беларусь стала правапераемніцай у дачыненні да вядомай Рамсарскай канвенцыі* ***"Аб водна-балотных угоддзях, якія маюць міжнароднае значэнне перш-наперш як месцы сялібішчаў вадаплаўных птушак"*** *(Рамсар, Іран, 1971). Літаральна гэта значыць, што наша суверэнная дзяржава забавязалася выконваць умовы яшчэ аднаго важнага міжнароднага дакумента экалагічнага права.*

*Нагадаем, што былы СССР далучыўся да Канвенцыі ў 1975 годзе. На той час былі абвешчаныя і 12 водна-балотных угоддзяў міжнароднага значэння Беларусь там, аднак, не значылася, што магло засведчыць хіба толькі інэртна-пасіўную пазіцыю як тагачасных экалагічных саноўнікаў, так і ўсёй савецка-беларускай сістэмы, для якой гэтая Канвенцыя ў параўнанні з будаўніцтвам жывёлагадоўчых комплексаў-гігантаў выглядала фармальнай паперкай.*
*Што ж цяпер, калі краіна, ужо на новым вітку свайго дзяржаўна-грамадскага развіцця, стала паўнапраўнай удзельніцай Канвенцыі? У прыватнасці, якія водна-балотныя каштоўнасці прапануе ў "пасаг"? Згодна з умовамі дакумента, краіна самастойна, зыходзячы з наяўнага патэнцыялу і — nota bene! —* ***"кіруючыся ўсведамленнем сваёй міжнароднай адказнасці"****, вызначае тэрыторыі водна-балотных угоддзяў для ўлучэння іх у Спіс Рамсарскай канвенцыі. Ці варта акцэнтаваць пры гэтым увагу на тым, што працэнт "пасагу", калі ён дастаткова высокі, спрыяе прэстыжу краіны - удзельніцы Канвенцыі? Варта. Бо і гэты раз мы бачым Беларусь не ў лепшай якасці: замоўлены мінімум з аднаго (!) водна-балотнага ўгоддзя відочна, сведчыць пра стрыманую пазіцыю дзяржавы ў яе арыентаванасці на зялёныя каштоўнасці, на ахову і міжнароднае прызнанне біялагічнай спадчыны Беларусі. За такім падыходам уладаў не бачна* ***"спалучэння дальнавіднай нацыянальнай палітыкі з каардынаванымі міжнароднымі ўмовамі"*** *(гл. тэкст Канвенцыі). На думку экспертаў, беларускі бок мусіў бы пачаць рахунак з 10-15 водна-балотных угоддзяў. Для гэтага ёсць падставы і неабходны патэнцыял.*

*І ўсё ж не хочацца прымяншаць значэння першага крока. Якім будзе крок наступны, шмат залежыць ад навуковай грамадскасці, прадстаўнікоў недзяржаўных арганізацый, ад палітычных змен у краіне на карысць дэмакратыі.*


**Штаб-кватэра:** Гланд (Швейцарыя)

**Адрас:** Ramsar Convention Mauvemey 28, CH-1196, Gland, Switzerland

**Факс:** 022 9990169
**Тэл.:** 022 9990170


### Дамоўныя бакі,

**уважаючы** за істотныя экалагічныя функцыі водна-балотных угоддзяў як рэгулятараў воднага рэжыму і ў якасці сялібішчаў, што забяспечваюць існаванне характэрнай флоры і фауны, асабліва вадаплаўных птушак,

**будучы перакананымі**, што водна-балотныя ўгоддзі ўдаюць за рэсурс, які мае эканамічнае, культурнае і рэкрэацыйнае значэнне, страта якой была б непапраўнай,

**жадаючы** прысупыніць узмоцнены наступ чалавека на водна-балотныя ўгоддзі і засце-рагчы іх сёння і ў будучыні,

**прызнаючы**, што вадаплаўныя птушкі над-час сваіх сезонных міграцыяў могуць перася-каць дзяржаўныя межы і, такім чынам, па-вінны разглядацца як міжнародны рэсурс,

**будучы упэуненымі**, што ахова водна-балотных угоддзяў, іх флоры і фауны можа быць забяспечана ў выніку спалучэння дальнавіднай нацыянальнай палітыкі з каардынаванымі міжнароднымі ўмовамі,

### пагадзіліся:

Артыкул 1

1. У гэтай Канвенцыі пад водна-балотнымі ўгоддзямі разумеюцца раёны балотаў, фенаў, тарфяных багнаў ці вадаёмаў – натуральных альбо штучных, сталых альбо часовых, стаячых альбо праточных, прэсных, салянаватых або салёных, улучаючы марскія акваторыі, глыбіня якіх пры адліве не перавышае шэсць метраў.

2. У гэтай Канвенцыі пад вадаплаўнымі птушкамі разумеюцца птушкі, экалагічна звязаныя з водна-балотнымі ўгоддзямі.

Артыкул 2

1. Кожны Дамоўны бок вызначае прыдатныя водна-балотныя ўгоддзі на сваёй тэрыторыі, якія заносіць ў Спіс водна-балотных угоддзяў сусветнага значэння (далей – Спіс) для захавання ў Бюро, устаноўленым Артыкулам 8. Межы кожнага водна-балотнага ўгоддзя дакладна апісваюцца і наносяцца на карту; яны могуць адвольна ўлучаць прыбярэжныя рачныя і марскія зоны, сумежныя з водна-балотнымі ўгоддзямі, а таксама выспы або марскія вадаёмы з глыбінёй больш як шэсць метраў у часе адліву, размешчаныя ў межах водна-балотных угоддзяў, асабліва там, дзе яны важныя ў якасці месцаў сілібішча вадаплаўных птушак.
2. Водна-балотныя ўгоддзі для Спісу павінны адбірацца на падставе іх міжнароднага значэння з гледзішча экалогіі, батанікі, заалогіі, лімналогіі або гідралогіі. Найперш у Спіс належыць заносіць водна-балотныя ўгоддзі, якія маюць міжнароднае значэнне ў якасці сялібішчаў-прыстанкаў вадаплаўных птушак у любы сезон.

(...)

4. Кожны Дамоўны бок вызначае для ўлучэння ў Спіс сама меней адно водна-балотнае ўгоддзе пры падпісанні гэтай Канвенцыі альбо пры здачы на захаванне дакумента аб ратыфікацыі ці далучэнні

(...)

5. Любы Дамоўны бок мае права дадаваць да Спісу водна-балотныя ўгоддзі, размешчаныя на яго тэрыторыі, пашыраць межы водна-балотных угоддзяў, якія ўжо занесены ім у Спіс, або, у выніку няўхільных дзяржаўных інтарэсаў, выкрасліць са Спісу альбо скараціць межы водна-балотных угоддзяў, якія ўжо занесены ім у Спіс, пра што інфармуе, і як мага хутчэй, дзяржаву альбо ўрад, адказныя за выкананне абавязкаў пастаянна дзеючага Бюро, як сказана ў Артыкуле 8;

6. Кожны Дамоўны бок кіруецца ўсведамленнем сваёй міжнароднай адказнасці за ахову, кіраванне і рацыянальнае выкарыстанне рэсурсаў мігруючых вадаплаўных птушак як пры вызначэнні першапачатковага Спісу, так і пры карыстанні сваім правам змяняць пералік водна-балотных угоддзяў, якія знаходзяцца на сваёй тэрыторыі і ўнесеныя ў Спіс.

Артыкул 3

1. Дамоўныя бакі вызначаюць і ажыццяўляюць сваё планаванне такім чынам, каб спрыяць ахове водна-балотных угоддзяў, унесеных у Спіс, а таксама, наколькі гэта магчыма, разумнаму выкарыстанню водна-балотных угоддзяў, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі.
2. Кожны Дамоўны бок забяспечвае такое становішча; пры якім ён сам як мага раней атрымлівае інфармацыю з месцаў, калі экалагічны характар любога ўгоддзя на яе тэрыторыі, занесенага ў Спіс, змяніўся, змяняецца ці можа змяніцца ў выніку тэхнічнага развіцця, забруджвання або іншых відаў чалавечага ўмяшання. Інфармацыя пра такія змяненні перадаецца без прамаруджвання ар-

*працяг на стар.4*

## Рэспубліканскі біялагічны заказнік "Спораўскі"

### Угоддзе, якое беларускі бок улучае ў Рамсарскі Спіс



***Буйнейшае ў Еўропе асокавае балота размешчана ў пойме ракі Ясельды, блізу горада Бяроза, на тэрыторыі чатырох раёнаў Брэсцкай вобласці: Бярозаўскага, Драгічынскага, Іванаўскага, Івацэвіцкага. Плошча 19384 гектары. 142-144 метры над узроўнем мора. Большая частка ў блізкім да натуральнага стане, на значнай тэрыторыі гідралагічны рэжым парушаны ў выніку меліярацыі. Месца сялібішча вяртлявай чарацянкі — віду птушак, якому глабальна пагражае знікненне. Балота ўдае за цэльны абшар, выцягнуты ўздоўж Ясельды на 35 км. Сярод абшару прыкметныя высцы, на якіх калісьці панавалі сасняні і дубровы, але з часам былі пасечаныя і сёння занятыя арацьбою ды пашаю. Сёлета ўся тэрыторыя ўгоддзя абвешчана ахоўнаю, тут забараняецца меліярацыя і абмежавана гаспадарчая дзейнасць. Аднак пагрозаў шмат. Апошнім часам моцна забруджваецца вада. У Ясельду скідваюцца сцёкі з прамысловых прадпрыемстваў і камунальнай гаспадаркі Бярозы, змываюцца мінеральныя і арганічныя ўгнаенні, асабліва з жывёлагадоўчых фермаў. Далёка за норму трапляюць сюды нафтапрадукты, медзь, фенолы, фосфар і інш. Але фактар меліярацыі застаецца самым значным з усіх відаў гаспадарчага ўціску на водны рэжым "Спораўскага". Разам з тым поймавае балота трымае важную ролю ў ачышчэнні вадазбору. Падчас веснавой і летняй паводкі багны збіраюць ватаматокі і гэтым самым адводзяць бяду ад селішчаў і палёў, ратуючы ад затаплення. Поймавыя вадабадзі Ясельды і асабліва возера Спораўскае багатыя на рыбу, навокал шмат сенакосаў і пашаў, на вадаплаўную птушку выходзяць паляўнічыя. На тэрыторыі заказніка зарэгістраваны дзве стаянкі старажытнага чалавека.***

* вяртлявая чарацянка

## SUMMARY


***Belarus inherited values of the Ramsar Convention. The newspaper publishes its content and commentary. It contains information about restrained state orientation to the "green" values. Possessing a huge water and marsh potential, Belarus introduced into the Ramsar Convention List just an obligatory minimum - "Sporavsky" biological reserve. p 3***
***The newspaper also represents the appendix to the Orhur Convention. It deals with the human activities dangerous for the environment. p 4***

# ПРАВА VETO

VETO



# Віды дзейнасці, якія вымушаюць асаблівай пільнасці

## Паводле Артыкула 6 Орхускай канвенцыі

*У сваім папярэднім нумары "БП" змясціла тэкст Орхускай канвенцыі **Аб доступе да інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў ходзе прыняцця рашэнняў, а таксама аб доступе да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя** (Орхус, 1998).*

*Публікацыя атрымала добры водгук, дазволіла значна пашырыць чытацкую аўдыторыю. Засведчаная цікавасць да міжнароднага экалагічнага дакумента дае падставы спадзявацца, што знаёмства з іншымі Канвенцыямі будзе стымуляваць сілы грамадскасці ў адстойванні права людзей на прымальнае для жыцця навакольнага асяроддзе, на пайнавартасную біялагічную спадчыну. Рэдакцыя рыхтуе да друку шэраг Канвенцый, якія альбо ўжо дзейнічаюць у Беларусі, альбо яшчэ не падпісаныя, але маюць вялікае значэнне для будучыні (прыкладам, Канвенцыя па барацьбе з апустыньваннем, 1994).*

*Сёння друкуецца дадатак 1 Орхускай канвенцыі, які датычыць пытання **аб мэтазгоднасці дазволу планаваных відаў дзейнасці** (Артыкул 6. Удзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў па канкрэтных відах дзейнасці). Рэдакцыя дазволіла пэўныя скарачэнні там, дзе тыя ці іншыя віды дзейнасці менш характэрныя для Беларусі, уважыла за магчымае іх не пералічваць альбо, у асобных выпадках, абмежавалася пераказам.*

*Публікацыя мае азнаямляльны характар і падаецца перш-наперш з мэтай актуалізаваць пытанні, звязаныя з вытворчасцямі, якія робяць велізарны ўплыў на стан навакольнага асяроддзя і культурна-біялагічную спадчыну Беларусі.*

1. Энергетыка:
- нафтаперапрацоўчыя і газа перапрацоўчыя заводы;
- устаноўкі для газіфікацыі і звадкавання; цеплавыя электрастанцыі і іншыя ўстаноўкі для звадкавання з падаванай цеплавой магутнасцю 50 мегабат (МВт) ці больш;
- коксавыя печы;
- атамныя электрастанцыі і іншыя атамныя рэактары, улучаючы дэмантаж альбо вывад з эксплуатацыі такіх электрастанцый і рэактараў (за выключэннем даследчых установак для вытворчасці і канверсіі матэрыялаў, якія дзеляцца й аднаўляюцца, калі максімальная магутнасць гэтых установак не перавышае 1 квт пастаяннай цеплавой нагрузкі);
- устаноўкі для перапрацоўкі абпрамененага ядзернага паліва;
- устаноўкі, прызначаныя: для вытворчасці альбо абага чэння ядзернага паліва; для апрацоўкі абпрамененага ядзернага паліва або высокарадыеактыўных адходаў; для канчатковага выдалення абпрамененага ядзернага паліва; выключна для канчатковага выдалення радыеактыўных адходаў; выключна для захавання (запланаванага на перыяд больш як 10 гадоў) абпрамененага ядзернага паліва або радыеактыўных адходаў у іншых месцах за межамі тэрыторыі вытворчага аб'екта.

2. Вытворчасць і апрацоўка металаў:
- устаноўкі для абпальвання альбо агламерацыі металічных рудаў (улучаючы сульфідную руду);
- устаноўкі для вытворчасці пераробнага чыгуну або сталі (першая ці другая плаўка), улучаючы няспынную разліўку з прадукцыйнасцю звыш 2,5 т у гадзіну;
- устаноўкі для апрацоўкі чорных металаў (далей падаецца поўны пералік з парогавымі велічынямі — рэд.);
- ліццё чорных металаў з вытворчай магутнасцю звыш 20 т у дзень (далей падаецца пералік іншых установак і працэсаў апрацоўкі металаў з парогавымі велічынямі — рэд.)

3. Прамысловасць па перапрацоўцы мінеральнай сыравіны (далей падаецца пералік установак для вытворчасці цэменту, асбесту й асбеставых вырабаў, шкла й шклювалакна, мінеральных валокнаў, керамічных прадуктаў шляхам абпальвання, у тым ліку чарапіцы, цэглы, керамічнай пліткі, парцалянавых вырабаў і інш. з парогавымі велічынямі — рэд.);

4. Хімічная прамысловасць (...):
a) хімічныя ўстаноўкі для вытворчасці асноўных арганічных хімічных рэчываў (далей падаецца поўны пералік гэтых рэчываў і злучэнняў — рэд.);
b) хімічныя ўстаноўкі для вытворчасці асноўных неарганічных рэчываў (далей падаецца поўны пералік гэтых рэчываў і злучэнняў — рэд.);
c) хімічныя ўстаноўкі для вытворчасці фосфарных, азотных або калійных мінеральных угнаенняў (простых або складаных угнаенняў);
d) (у падпунктах d-g закранаецца вытворчасць прадуктаў для раслінаводства і біяцыдаў, фармацэўтычных прадуктаў, выбуховых рэчываў, бялковых кармавых дабавак, ферментаў і інш. — рэд.);

5. Апрацоўка і выдаленне адходаў:
- устаноўкі для спальвання, рэкуперацыі, хімічнай апрацоўкі або захавання небяспечных адходаў;
- устаноўкі для спальвання камунальна-бытавых адходаў з прадукцыйнасцю звыш 3 т у гадзіну;
- устаноўкі для выдалення няшкодных (з пункту гледжання бяспекі) адходаў з прадукцыйнасцю звыш 50 т у дзень;
- звалкі, на якія паступае больш як 10 т адходаў у дзень, або з агульнай ёмістасцю звыш 25000 т, выключаючы звалкі інертных адходаў.

6. Устаноўкі для ачысткі сцёкавай вады з прадукцыйнасцю, якая перавышае эквівалент колькасці насельніцтва 150 000 чалавек.

7. Прамысловыя ўстаноўкі для:
a) вытворчасці цэлюлозы з драўніны або аналагічных валакністых матэрыялаў;
b) вытворчасць паперы і кардону з вытворчай магутнасцю звыш 20 т у дзень (у пунктах 8,9 падаецца шэраг экалагічных пагрозаў, звязаных з транспартнымі і гандлёвымі шляхамі: будаўніцтва



** з часам балотныя асяродкі стануць месцамі рэкрэацыі і назірanняў*

*Фота: Віталь Прошча*

*працяг са стар. 3*



ганізацыі або ўраду, адказным за выкананне абавязкаў пастаянна дзеючага Бюро, як сказана ў Артыкуле 8.

Артыкул 4

1. Кожны Дамоўны бок спрыяе ахове водна-балотных угоддзяў і водаплаўных пту-шак праз стварэнне прыродных рэзерватаў на водна-балотных угоддзях, незалежна ад таго, занесены яны ў Спіс альбо не, і забяс-печвае належны нагляд за імі.

2. У тых выпадках, калі з-за няўхільных дзяржаўных інтарэсаў Дамоўны бок выключае са Спісу альбо скарачае памеры водна-балотнага ўгоддзя, занесенага ў Спіс, ён павінен, наколькі гэта магчыма, кампенсаваць страту рэсурсаў водна-балотных угоддзяў; у прыватнасці, ён павінен ствараць дадатковыя прыродныя рэзерваты для вадаплаўных птушак, а таксама забяспечваць абарону дастатковай часткі тэрыторыі ў гэтым раёне альбо дзе-небудзь у іншым месцы.

3. Дамоўныя бакі заахвочваюць даследванні і абмен звесткамі й публікацыямі, якія маюць дачыненне да водна-балотных угоддзяў, іх флоры і фауны.

4. Дамоўныя бакі імкнуцца да павелічэння колькасці вадаплаўных птушак шляхам рацыянальнага выкарыстання адпаведных водна-балотных угоддзяў.

5. Дамоўныя бакі спрыяюць падрыхтоўцы кампетэнтных спецыялістаў для даследавання, нагляду і кіравання водна-балотнымі ўгоддзямі.

(...)

Артыкул 6 (1)

1. Дамоўныя бакі, калі ў гэтым ёсць неабходнасць, склікаюць Канферэнцыі па ахове водна-балотных угоддзяў і вадаплаўных птушак.

2. Канферэнцыі маюць кансультатыўны характар і кампетэнтныя ў наступным:

a) абмяркоўваць выкананне Канвенцыі;

b) абмяркоўваць дапаўненні і змяненні ў Спісе;

c) разглядаць інфармацыю адносна змяненняў у экалагічным характары водна-балотных угоддзяў, занесеных у Спіс, у адпаведнасці з пунктам 2 Артыкула 3;

d) даваць агульныя і спецыяльныя рэкамендацыі Дамоўным бакам, што датычаць аховы, кіравання і рацыянальнага выкарыстання водна-балотных угоддзяў, іх фауны і флоры;

e) звяртацца з просьбай да адпаведных міжнародных ораганаў адносна падрыхтоўкі справаздачы і статыстычных звестак, галоўным чынам, міжнароднага характару і звязаных з водна-балотнымі ўгоддзямі.

3. Дамоўныя бакі забяспечваюць, каб тыя, хто нясе адказнасць на ўсіх узроўнях за кіраванне водна-балотнымі ўгоддзямі, былі інфармаваныя і ўлічвалі рэкамендацыі такіх Канферэнцый адносна аховы, кіравання і рацыянальнага выкарыстання водна-балотных угоддзяў, іх флоры і фауны.

Артыкул 7

1. Кожнаму Дамоўнаму боку варта пасылаць на такія Канферэнцыі прадстаўнікоў з ліку асобаў, якія з'яўляюцца экспертамі па водна-балотных угоддзях або вадаплаўных птушках дзякуючы сваім ведам і досведу, набытым у навуковай, адміністратыўнай або іншых адпаведных галінах.

Артыкул 8

1. Міжнародны саюз па ахове прыроды і прыродных рэсурсаў выконвае абавязкі пастаянна дзеючага Бюро, якія накладвае гэта Канвенцыя, пакуль Дамоўныя бакі галасаваннем большасці ў дзве трэці не прызначаць іншую арганізацыю або ўрад.

чыгунак, аўтамагістраляў, новых дарог або рэканструкцыя ці пашырэнне тых, якія існуюць, узлётна-пасадачных палосаў аэрапортаў, водных шляхоў і портаў з парогавымі велічынямі - **рэд.**).

10. Забор пададзенай вады або сістэмы штучнага папаўнення падземнай вады з штогадовым аб'ёмам заборнае ці папаўняльнае вады, калі гэты аб'ём эквівалентны або перавышае 10 млн. м куб.

(...)

13. Плаціны ды іншыя аб'екты, прызначаныя для стрымання ці пастаяннага захавання вады, для якіх новая або дадатковая колькасць затрыманай ці перахоўнай вады перавышае 10 млн. м куб.

14. Трубаправоды для транспарціроўкі газа, нафты або хімічных рэчываў дыяметрам больш як 800 мм і працягласцю больш як 40 км.

15. Устаноўкі для інтэнсіўнага вырошчвання птушкі або свінней, разлічаныя на больш як:

a) 40 000 месцаў для птушкі;

b) 2 000 месцаў для адкормачных свінней (вагою больш як 30 кг); або

c) 750 месцаў для свінаматак.

16. Кар'еры і адкрытая здабыча карысных выкапняў з паверхняю участка, які перавышае 25 га, або здабыча торфу, пры якой паверхня ўчастка перавышае 150 га.

17. Будаўніцтва паветраных ліній электраперадачы з нагружаннем 220 Кв ці больш і працягласцю больш як 15 км.

18. Устаноўкі для захавання нафты, нафтаперапрацоўчых або хімічных прадуктаў змяшчальнасцю 200 000 т ці больш.

19. Іншыя віды дзейнасці (падаецца пералік патэнцыяльных пагрозаў, звязаных з папярэдняй апрацоўкай і фарбаваннем валокнаў або тэкстылю, перапрацоўкай тушаў жывёлы і адходаў жывёлагадоўлі, вытворчасцю харчовых прадуктаў з жывёльнай (апроч малака) і раслінай сыравіны з парогавымі велічынямі — **рэд.**)

20. Любы від дзейнасці, не ахоплены пунктамі 1-19 вышэй, у тым разе, калі ўдзел грамадскасці прадугледжваецца ў рамках працэдуры ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам.

(...)

2. Абавязкі пастаянна дзеючага Бюро палягаюць у тым, каб:

a) садзейнічаць скліканню і арганізацыі Канферэнцый, спамянутых у Артыкуле 6;

b) захоўваць Спіс водна-балотных угоддзяў міжнароднага значэння і атрымліваць інфармацыю ад Дамоўных бакоў пра любыя дапаўненні, пашырэнні ў межах, выключэнні ці абмежаванні адносна водна-балотных угоддзяў, занесеных у Спіс (...);

c) атрымліваць інфармацыю ад Дамоўных бакоў пра любыя змяненні ў экалагічным характары водна-балотных угоддзяў, занесеных у Спіс (...);

d) даводзіць да ведама Дамоўных бакоў пра любыя змены ў Спісе або змены ў характары водна-балотных угоддзяў, што ўнесены ў Спіс, і забяспечыць абмеркаванне гэтых пытанняў на наступнай Канферэнцыі;

e) даводзіць да ведама адпаведных Дамоўных бакоў рэкамендацыі Канферэнцыі адносна змяненняў у Спісе або змяненняў ў характары водна-балотных угоддзяў, што ўнесены ў Спіс.

(...)

# Экалагічныя правы і абавязкі, замацаваныя ў Канстытуцыі Беларусі

- **Права кожнага** на спрыяльнае навакольнае асяроддзе, праўдзівую інфармацыю пра яго стан, на кампенсацыю шкоды, якая прычынена ў выніку парушэння гэтага права. *"Дзяржава ажыццяўляе кантроль за рацыянальным выкарыстаннем прыродных багаццяў з мэтаю абароны і паляпшэння ўмоў жыцця, а таксама аховы і ўзнаўлення навакольнага асяроддзя* (а р т ы к у л ы 34, 46, 60)
- **Абавязак** ахоўваць прыроду, навакольнае асяроддзе, беражліва адносіцца да прыродных багаццяў (а р т ы к у л 55)
- **Абавязак** клапаціцца пра захаванасць гістарычнай і культурнай спадчыны народа, берагчы помнікі гісторыі і культуры (а р т ы к у л 54)
- **Права** на спрыяльныя ўмовы працы (а р т ы к у л 41, частка1)
- **Права** на ўдзел у кіраўніцтве справамі грамадства і дзяржавы як непасрэдна (рэферэндум), так і праз сваіх прадстаўнікоў (а р т ы к у л 37); права на свабоду аб'яднанняў (а р т ы к у л 36)
- **Права** на мітынгі, сходы, шэсці, дэманстрацыі, пікетаванне (а р т ы к у л 35)
- **Права** кожнага на свабоду меркаванняў, перакананняў, на свабоднае іх выказванне, г.зн. у любой дапушчальнай законам форме распаўсюджваць сваю думку і свабодна атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю (а р т ы к у л 33). Права на свабоду інфармацыі, г. зн. права на азнаямленне з дакументамі, рашэннямі, матэрыяламі дзяржаўных органаў, што закранаюць інтарэсы грамадзянаў (а р т ы к у л 34)
- Утойванне службовымі асобамі фактаў і абставінаў, якія стварылі пагрозу жыццю і здароўю людзей, цягне за сабой устаноўленую законам адказнасць (а р т ы к у л 59, часткі 2,3)
- **Права** на ахову здароўя (а р т ы к у л 45)
- **Права** абскардзіць незаконныя дзеянні дзяржаўных органаў, службовых асоб, права на звароты ў дзяржаўныя органы (а р т ы к у л ы 60, 40)
- **Права** на кампенсацыю ў судовым парадку матэрыяльнага ўрону і маральнае шкоды, прычыненых любой асобе незаконнымі дзеяннямі альбо бяздзеяннем дзяржаўных органаў ці службовых асоб (а р т ы к у л 60)
- **Права** кожнага звяртацца ў міжнародныя арганізацыі з мэтай абароны сваіх правоў і свабодаў, калі ўсе магчымыя дзяржаўныя сродкі прававой абароны вычарпаны (а р т ы к у л 61).




# Была б воля і годнасць дзяржавы

## Вялікая частка экасістэмаў былога Прыпяцкага запаведніка мусіць быць аднаўленая ў сваім запаведным статусе



Фота: Міхал Козел (Тураў)

**Ад рэдактара.**

Навуковы супрацоўнік Нацыянальнага парка "Прыпяцкі" **Іна Зеніна** падае цікавы погляд не толькі на гісторыю палескага рэзервата з нагоды 30-годдзя гэтай установы, але выкладае шмат звестак гістарычнага й сучаснага кшталту ў сваёй, на наш погляд, шмат чым адрознай ад афіцыйнай, інтэрпрэтацыі.

У артыкуле выразна замоўлена **зялёная апазіцыя да курсу так званага "прыродаахоўна-гаспадарчага" асваення запаведных тэрыторый як вельмі шкоднай і часам злачыннай тэндэнцыі з боку ўладных структураў.** З гэтага добра бачна, наколькі шчыльна ў цяперашніх умовах ( прынамсі, на сярэдзіну ліпеня 1999-га) пытанні прыродаахоўнай палітыкі ў Беларусі перавязаныя з агульным палітычным фонам у краіне.

Іна Міхайлаўна ў сваёй прыпісцы на імя галоўнага рэдактара робіць слушную ўвагу ў бок публікацыі намесніка дырэктара НП "Прыпяцкі" Анатоля Ўглянца ў часопісе "Родная прырода" (N3, 1999). Нагода публікацыі тая ж - юбілейная. А што да выкладу... Хто зацікавіцца, можа прачытаць артыкул - параўнаць, узважыць, зрабіць высновы.

Варта ўзгадаць таксама і незадаўнены выпуск нашай газеты, прысвечаны Прыпяцкаму Палессю (N2, 1997). На той час А.Углянец пісаў пра ўтвораны на месцы ландшафтна-гідралагічнага запаведніка нацыянальны парк, які, на яго думку, "паводле сваёй структуры, рэжыму аховы і навуковай дзейнасці адпавядае міжнародным стандартам біясфернага запаведніка і выконвае ўсе ягоныя функцыі". На жаль, сёння ёсць істотныя прычыны ў гэта не верыць. Як кажуць, іншая сітуацыя, іншая рэчаіснасць і... страчаны юбілей, бо запаведніка не існуе, а формы новай структуры, якая называецца нацыянальны парк, усё часцей шакіруюць экалагічную грамадскасць.

### "...У Тураўскіх лясах водзяцца такія мядзведзі..."

"Палессе... краіна лясоў. — пісаў вучоны А.Штам*.— Цяжка знайсці мясціну, дзе б не было відаць лесу, хоць бы на гарызонце...". Сведчанне відавочцы пазначана "нашым", XX-м стагоддзем: 1923 год. Лес, балоты, рэкі, рачулкі, зялёныя выспы, гаі — усё разам стварае адметны палескі краявід, аднак пераважае, мабыць, сапраўды лес, яго ўсюдыіснае атачэнне. Калі згадаць пра чалавека – даўняга спадарожніка гэтых краявідаў, дык дадайце сюды і ягоныя адвечныя заняткі — паляванне й рыбалоўства, бо лес і рака былі, як кажуць, у яго за парогам. Земляробства скранулася пазней. Значная забалочанасць Палесся, бадай, да сходу XIX стагоддзя давала магчымасць разворваць хіба што дзялянкі з больш-менш прыдатнай вільготнасцю ды лепшай глебай. Часам разворваліся й пясчаныя неўрадлівыя глебы, але потым яны закідваліся ды зноў зарасталі.

На даўнім тураўскім гарадзішчы перыяду X – XVIII ст. археолагі знаходзілі разам з косткамі свойскіх жывёлаў і косткі еўрапейскага аленя, лася, дзіка, бабра, зубра, казулі, мядзведзя, ваўка, лісіцы, рысі. Знойдзены й парэшткі тура – дзікага быка (прыкладна XУ – XУІ ст.) Заўважана, што тагачасныя зубры, алені, дзікі і мядзведзі былі большых памераў, чым сённяшнія асобіны.

Сустракаўся, дарэчы, і дзікі лясны кот, але на сходзе XIX ст. след яго незваротна знік.

На думку даследчыкаў, значныя парушэнні прыродных працэсаў з-за гаспадарчай дзейнасці чалавека адбыліся ў апошняе тысячагоддзе. Зрэз часу яскрава паказвае, як адбывалася замена лясной расліннасці лугамі альбо раллёю, асабліва з прыходам сюды меліярацыі — галоўнага пераўтваральнага інструмента.

Гісторыя меліярацыі на Палессі налічвае тымчасам сама меней як тры стагоддзі. У родавых фондах Радзівілаў, Агінскіх, Сапегаў, у дзяржаўных архівах ёсць дакументы, якія датычаць меліярацыі як сродка прыдбання зямлі. На 1777 год, калі Тураў належаў пану Патоцкаму, "усе вёскі мелі ў лясах новыя распрацоўкі, за якія нічога не плацілі". Сялянам можна было "распрацаваць сабе частку лесу пад арацьбу, а зараснікі — на лугі". Разбуральныя магчымасці чалавека былі яшчэ вельмі абмежаваныя. Лясы і балоты ўяўляліся яму крыніцамі невычэрпнымі.

У 1631 годзе распрацавана "устава для вядзення лясной гаспадаркі" з мэтаю збыту прадуктаў на знешні рынак. Значна пазней, у 1888 годзе, выйшаў лесаахоўны закон, аднак, на думку А.Штама, знішчэнне лесу пайшло яшчэ шпарчэй, чым да прыняцця закона. "Кожны імкнуўся, – піша аўтар, – як мага хутчэй і паўней зрэалізаваць свае лясныя капіталы, зусім не дбаючы ні пра запасы лесу, дый не зважаючы на паняцце, што такое нармальны лес, толькі думаючы пра дзень сённяшні..."

А.Штам спрабуе з глыбіні гісторыі ўзаемаадносін чалавека з прыродай Палесся знайсці прычыну спажывецкага стаўлення да яе каштоўнасцяў: "Самую малую пядзю зямлі давялося адбіваць з вялікай, звышчалавечай натугай ды штораз пасля ахоўваць ад новых наступаў лесу. ...У гэтым змаганні насельніцтва з лесам дзеля валодання кавалкам раллі, што нядаўна ляжала пад лесам, і трэба шукаць корань варожых адносін да лесу, нават адкрытай нянавісці, якую заўважаем у палешукоў... Што датычыць, нарэшце, паляўнічай фауны ў Палессі, дык на ёй, бадай, лепш за ўсё бачыш неразумнае стаўленне да яе мясцовага люду. Вялікая і найбольш каштоўная дзічына... даўно выбіта. Астатняя, што яшчэ ацалела ў лясах Палесся, выбіваецца і дабіваецца без усякае літасці й жалю... Мне сустракаліся паляўнічыя, якія выхваляліся тым, што вакол іх жытла, вёскі ці хутара ўсё імі чыста павыбіта, што ніводнага зайца альбо цецярука, ні якой-кольвек іншай дзічыны не засталося, так усё ўходана, "дойдзена" іхнім выключным паляўнічым нюхам — і ўходана".

Міхалон Літвін, беларускі гуманіст і пісьменнік XУІ ст., падае паляванні ў Палессі таго часу як здзірскія: "Алені забіваюцца адно дзеля скуры, а мяса, апроч філейных часцін, выкідаецца. Коз і дзікоў пакідаюць без увагі". Зноў звернемся да А.Штама: "У старажытныя часы, пакуль звяроў і птушак было многа, а насельніцтва яшчэ не шматлюднае, збіццё чалавекам звяроў і птушак дзеля задавальнення яго жыццёвых патрэбаў, не зрабіла прыкметнага ўплыву на разнастайнасць фауны. Толькі... з павелічэннем народанаселенасці, з пашырэннем ворыўных лясных плошчаў, якія дагэтуль давалі схоў і прытулак звярам і птушкам, а пасля драбіліся на часткі і трацілі свой характар абшару, чалавек ... непасрэдным забойствам пачынае ўплываць на багацце фауны як у колькасных, так і ў якасных паказчыках. Выбіваючы лепшыя экземпляры, ... ён тым самым чыніць штучную дэгенерацыю відаў..." За прыкладам, які б ілюстраваў высновы А.Штама, далёка хадзіць не трэба: вынікам такога стаўлення з'явілася знікненне ў Палессі тура на пач. XУІІ ст., а затым еўрапейскага аленя і зубра (пач. XIX ст.).

Паказальная гісторыя мядзведзя. У выданні "Мазыршчына"* (1859) вядомы даследчык культуры і побыту беларусаў П.Шпілеўскі прыводзіць такое сведчанне: "У тураўскіх лясах водзяцца такія мядзведзі, што сустрэўшыся з імі ахнеш ад здзіўлення, —такія вялікарослыя гэтыя апусташальнікі вулляў і сялянскіх пасеваў. Поўныя велічы, яны спакойна расходжваюць па нівах, пляжаць авёс і пшаніцу, залазяць у вуллі, куляючы іх вобзем". А ўжо ў пачатку XX ст. А.Штам піша: "Летаў дваццаць таму мядзведзі ўважаліся за досыць звычайных у Палессі, але цяпер захаваліся, можа, толькі ў Тураўскім абшары, і тое, вядома, у самай нязначнай колькасці..." Можа, не выпадкова адзін з апошніх, калі не апошні, мядзведзь на Палессі быў заспеты й загінуў менавіта на Тураўшчыне, на тэрыторыі ўжо Прыпяцкага запаведніка, на пачатку 80-х?.. Ён быў знойдзены ў лесе мёртвы: упаў з дрэва разам з калодаю і смяротна пабіўся.

Новае, дваццатае стагоддзе прырода Палесся сустрэла істотна падарванымі рэсурсамі паляўнічых відаў жывёл. Бадай што, знік бабёр, дзе-нідзе захаваліся яго адзінкавыя пасяленцы. Пад пагрозай знішчэння апынуліся лось, дзік. Гэта быў адзін з самых цяжкіх вынікаў шматвяковых узаемаадносінаў чалавека з прыродай Палесся.

Разам з тым на Палессі ёсць прыклады іншых метадаў карыстання прыроднымі багаццямі. Так здары-



*__Іна Зеніна__ родам з Мазыра. У 1985 закончыла біялагічны факультэт Гомельскага універсітэта.*

*Працавала ў Палескім прыродным запаведніку на Жытомірычыне (Украіна). З 1991 навуковы супрацоўнік Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка. Даследуе сысуноў. Актыўна працуе ў грамадскім сектары, займаецца экалагічным выхаваннем сярод школьнікаў.*

SUMMARY

***Ina Zenina, the research assistant of the national park "Pripjatsky", poses a question about returning the former reserve status to the major part of the safe-conduct territory, as the present situation allows authorities to ignore scientific interests for industrial and economic ones.***



ласся, што на тэрыторыі будучага Прыпяцкага запаведніка ў 1874 годзе пачала працаваць дзяржаўная "Заходняя экспедыцыя па асушэнні балот у Палессі" пад кіраўніцтвам палкоўніка І.Жылінскага.

Пракладваючы каналы, экспедыцыя максімальна выкарыстоўвала натуральныя вадатокі. Асушаныя плошчы ў залежнасці ад характару глебы й патрэбаў мясцовасці ператвараліся ў сенажаць альбо лес. Сенажаці паўставалі натуральным чынам: балотная расліннасць паступова, без засявання замянялася на лугавую. На травяных балотах гэты працэс займаў 6-7 гадоў і крыху больш – на травяніста-мохавых. Балоты, асушаныя сярод лясных абшараў, неўзабаве зарасталі лесам. Паводле ацэнак, за 25 гадоў працы экспедыцыя Жылінскага ў Палессі асушыла ад 7 да 11 працэнтаў тагачасных балотаў. У складзе экспедыцыі працаваў і навуковец А.Нікольскі. У дадатку да справаздачы ён падаў звесткі пра 56 відаў звяроў у Палессі (1899), якімі дагэтуль ахвотна карыстаюцца навуковыя супрацоўнікі. Вядомы расійскі эколаг М.Рэймерс называе вопыт меліярацыі Жылінскага прыкладам "мяккага кіравання прыродай". Гэты вопыт і сёння, праз 100 гадоў патрабуе вывучэння і асэнсавання.

зберагчы ад знішчэння тысячы дрэваў. Кожнае дрэва – гэта цэлы свет. Ягоныя межы не заканчваюцца тым, што мы бачым: камель, крона, лісце... Гэта яшчэ мноства маленькіх жывых істотаў — жукоў, павукоў, кузурак, што знаходзяць прытулак у лісцях, трэшчынах кары, драўніне. Гэта жытло мышэй недзе ў нары пад дрэвам, дзесьці там спяць усю зіму маленькія начныя грызуны, падобныя на вавёрачак, — соні. Гэта птушкі, якія хаваюць гняздо ў лістоце дуба ці проста знаходзяць тут ежу і адпачынак, — яны робяць межы дрэва неакрэсленымі. Гэта кажаны, якія жывуць у дупле старога дуба. А ўраджай жалудоў, якія ядуць дзікі, казулі, зубры... У лесе нават вывернутае з коранем дрэва яшчэ доўга жыве, бо жыве гэты свет— у ім і вакол яго. Агідны для многіх вялікі "чарвяк" у трухлявым ствале харчуецца драўнінай ужо нежывога дрэва, ператвараецца ў вялізнага і такога цудоўнага жука-аленя. Усё менш жукоў можна бачыць на Палессі, усё менш дубоў застаецца ў сваім лесе назаўсёды: нават не спілаваныя дрэвы, а тыя, што ўпалі, распілоўваюць і вывозяць з лесу.

* *бабры сялібуюць там, дзе спакой і "ціхая вада"*



*Фота: Мікалай Шарай (Мінск)*

**Паміж Сцвігай і Убарцю**

Аднойчы калега паказаў мне старонку дужа задаўненай падшыўкі папулярнага савецкага часопіса "Тэхніка – моладзі". Да аднаго з артыкулаў была намалявана карта Палесся, на ёй паказана "грандыёзная мара савецкага народа": прасторы жыта і пшаніцы на месцы спрадвечных лясоў і балот, акурат паміж Сцвігай і Убарцю. Лясы, паводле мары, мусілі знікнуць, а з імі — і ўся безліч жывых істотаў. На шчасце, мара не спраўдзілася. Калі б спраўдзілася – замест лясоў і балот мы бачылі б цяпер палі, па якіх вецер гоніць пясок. На шчасце, у 1969 годзе паміж рэкамі Сцвігай і Убарцю, на правабярэжжы Прыпяці быў створаны дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік "з мэтай захавання ў натуральным стане ўнікальнага для беларускага Палесся ландшафта і вывучэння на яго базе змен у прыродзе ў сувязі з асушэннем зямель Палескай нізіны". Спачатку новы запаведнік планавалі так і назваць — Палескі. Але назва ўжо была "занятая" суседзямі-ўкраінцамі, і беларускі рэзерват быў названы Прыпяцкім.

Запаведанне дало магчымасць

Нават калі не многа, а толькі адзін стары дуб спілоўваецца і вывозіцца з лесу— увесь гэты свет гіне, яму прыходзіць канец. А калі не адзін, а дзясяткі, сотні, тысячы маленькіх разбураных светаў па ўсім Палессі, па ўсёй Беларусі?..

Так мы разгойдваем "арэлі жыцця" на нашай планеце. Вышэй, спрытней, дужэй! І больш невыносныя ўмовы робім для сябе і нашчадкаў. Ці не першыя гэта званкі: анамальныя, звыш нармальных, перапады тэмпературы і вільгаці на працягу года ў нас на Палессі? Або нязнаныя ў сваёй знішчальнай сіле ўраганы далёка ад нас, нашых сялібаў? Калі разважаеш пра гэта, робіцца зразумела: трэба захоўваць кожнае дрэва, кожную раслінку, кожную жывую істоту на роднай зямлі, на тваёй зямлі; пагатоў, калі гэта датычыць асабліва ахоўных прыродных тэрыторый: запаведнікаў, нацыянальных паркаў, заказнікаў, якія і ствараюцца дзеля захавання мільёнаў маленькіх светаў вялікага свету, назва якому Зямля, сусвет.

**Балансаванне перад падзеннем**

У якасці "сталіцы" створанага запаведніка быў абраны старажытны Тураў. Тут размясцілася цэнтральная сядзіба Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка, цяпер нацыянальнага парка.

З першых гадоў супрацоўнікі навуковага аддзела распачынаюць сістэматычныя даследзіны прыродных комплексаў, так званы Летапіс прыроды. Старанна занатаваны жывёлы і расліны, дадзена агульная адзнака іх стану і колькасці. Створаны гербарый раслінаў, распачата стварэнне навуковай заалагічнай калекцыі. З удзелам Цэнтральнага батанічнага сада і Інстытута батанікі Акадэміі Навук закладзены пробныя пляцоўкі для шматгадовых назіранняў за узроўнем глебавых водаў, зменамі расліннага й жывёльнага свету. Вывучаюцца асаблівасці ўплыву меліярацыі на натуральныя прыродныя комплексы, адсочваецца іх накірунак і наступствы.

Існаванне запаведніка, аднак, не выдае на бязвоблачнае. Дастаткова глянуць у апошні пункт урадавай Пастановы: "Дазволіць, у выглядзе выключэння, высечку лесу... на тэрыторыі Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка ў 1969 годзе ў межах зацверджанага плана, а ў 1970 -1975 гг. – у межах разліковай лесасекі". Не дзіва, што з 1969 па 1987 гг. колькасць старых лясоў зменшылася з 9,1 да 2,9 працэнта. І гэта ў запаведніку, дзе павінна быць наадварот! Як вынік – страчаны тысячы найпракаветных дрэваў: дубоў, соснаў, вольхаў ды інш.

Адносіны да прыроды, асабліва да запаведнікаў, у 60-я гады вызначаліся агульным курсам тагачаснай экалагічнай навукі. Панаваў антрапацэнтрычны падыход. Віды жывёл падзяляліся на шкодных і карысных. Адна з праяваў гэткага "наватарскага" падыходу – стаўленне да ваўка. У архіве Прыпяцкага запаведніка ёсць дакумент, які пра тое яскрава сведчыць: "Загонныя і аблаўныя паляванні, за выключэннем палявання на ваўкоў ды іншых шкодных жывёлаў, на тэрыторыі запаведніка забароненыя". Была распрацавана і адмысловая методыка знішчэння ваўкоў з дапамогай атруты. З таго часу мала што змянілася: егеру і сёння прадпісана страляць у лесе ў любы перыяд года ваўкоў, а таксама бадзяжных сабак альбо кошак. Між тым, даследванне "воўчай" праблемы паказала, што ў лясах, дзе ваўкі былі выбіты ці значна скарацілася іхняя колькасць, па нейкім часе на іх месца заступалі бадзяжныя сабакі (Прыокска-Тэрасны запаведнік, Лапландскі запаведнік і інш.). Яны пачыналі паляваць на дзікіх жывёл, збіраючыся ў небяспечныя зграі.

Не абышла бокам палескі рэзерват сумна вядомая ідэя абагачэння фауны. У выніку на тэрыторыі запаведніка з'явіліся янот-паласкун, янотападобны сабака, андатра, амерыканская норка. Тымчасам знік мясцовы від – еўрапейская норка, істотна зменшылася колькасць рысі, барсука, глушца. Бадай, ад пачатку гісторыя запаведніка прасякнута гэтым "балансаваннем" паміж прыродаахоўнымі, навуковымі інтарэсамі і інтарэсамі лесагаспадарчымі. У большасці перамагалі апошнія.

Некалькі прыкладаў: падчас лесагаспадарчых "мерапрыемстваў" знішчаны пляцоўкі для шматгадовых назіранняў. Колькі існаваў запаведнік, на тэрыторыі заказнікаў не створана ніводнай навуковай базы, а гэта істотна стрымлівала паступленне навуковай інфармацыі аб прыродных працэсах. Між тым, неабходнасць іх стварэння была акрэсленая ў планах з 1973 года.

За тры дзесяцігоддзі, асабліва ў апошнія гады, з'явілася шмат прынцыпова новых кірункаў і напрацовак, якія датычаць экалагізацыі дзейнасці чалавека, у тым ліку па праблеме існавання запаведнікаў ды іншых асабліва ахоўных прыродных тэрыторый у сучасных умовах. У суседняй Расіі, напрыклад, распачата падрыхтоўка адмысловай канцэпцыі такіх тэрыторый, разгорнута шырокая дыскусія ў прэсе. Думаю, і Беларусі не зашкодзіла б стварэнне падобнай канцэпцыі з шырокім абмеркаваннем, залучэннем грамадскасці. Час паставіць кропкі над "і" ў пытаннях функцыянавання падахоўных тэрыторый даўно, як кажуць, наспеў.

**Пад нумарам 298**

У жніўні 1996 г. запаведнік наведаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, а 2 кастрычніка з"явілася ягонае распараджэнне пад нумарам 298 "О реорганизации Припятского государственного ландшафтно-гидрологического заповедника". Рэарганізацыя была здзейснена, згодна з распараджэннем, "в целях сохранения уникальных природных комплексов Полесья, развития **производственно-хозяйственной** базы, создания условий для решения социально-экономических задач населения" (захоўваем мову арыгінала — *рэд.*).

Ідэя надання Тураўшчыне асаблівага статусу прадчувалася й наспявала яшчэ ў знакамітага беларускага пісьменніка Ўладзіміра Караткевіча, які любіў Палессе і шматразова наведваў Тураўшчыну, пісаў пра яе. Але ў канкрэтны план ідэя вылілася на пачатку 90-х, калі па ўсёй прасторы былога Саюза пачалі з'яўляцца нацыянальныя паркі. У падтрымку такога плана выступіў, у прыватнасці, часопіс "Родная прырода" (№6, 1991). Стварэнне нацыянальнага парка "Тураўшчына" бачылася як грамадскае прызнанне той выдатнай ролі і месца, якія Тураўшчына трымала ў старажытнай гісторыі ўсходніх славян.

Навуковыя колы прасоўвалі не адзін варыянт стварэння нацыянальнага парка й суіснавання яго з Прыпяцкім запаведнікам (пра скасаванне запаведніка гаворка нават не заходзіла). Падрыхтоўка адпаведнага тэхніка-эканамічнага абгрунтавання (з удзелам акадэмічных вучоных) працягвалася да моманту выхаду распараджэння, якое і падвяло сумную рысу.

Зрэшты, чаму сумную? Паспрабую разважыць.

Вонкава ўсё як быццам бы вы-

*працяг на ст. 8*

# НЕРУШЫ SANCTUARIES

*са старонкі 7*

гледала прыстойна.Тэрыторыя новага ўтварэння была павялічана. Да плошчы, якую займаў запаведнік, далучылі частку поймы Прыпяці, а таксама невялікі лясны абшар на левабярэжжы. Але чым адрозніваецца запаведнік ад нацыянальнага парку?— і тое, і другое, як вядома, ёсць асабліва ахоўнымі прыроднымі тэрыторыямі. Адказ знаходзім у Законе Рэспублікі Беларусь "Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб`ектах". Запаведнікі — прыродаахоўныя навукова-даследчыя ўстановы, нацыянальныя паркі — прыродаахоўныя **гаспадарчыя** і навукова-даследчыя.

Як бачым, навуковая дзейнасць у нацыянальным парку саступае на другі план, ёй надаецца меншае значэнне, чым у запаведніку. Першыя змены не прымусілі доўга чакаць: навуковы аддзел парка быў скарочаны на 3 пасады, хоць фактычна гэтага ніхто й не адчуў, бо на працягу апошніх гадоў у навуковым штаце зеўрылі вакансіі...

Галоўнае было ў іншым: створаны нацыянальны парк "Прыпяцкі" засланіў сабою планаваны нацыянальны парк "Тураўшчына". Найпершая мэта парка на Тураўшчыне – захаваць і зрабіць шырока даступнай спадчыну гэтага краю – засталася ў баку. Да гісторыка-культурных каштоўнасцяў рукі не дайшлі. Запаведнік, як самую строгую з вядомых форм аховы "зялёнай" спадчыны, — страцілі.

Што атрымалі ў выніку? Якія перспектывы на будучыню? З чым рушым у новае стагоддзе?

Застаецца праблема: у склад нацыянальнага парка не ўвайшла гісторыка-этнаграфічная частка, не ўважаны шматлікія археалагічныя помнікі, не атрымала зрухаў інфраструктура турыстычнага накірунку. Тымчасам востра паўстае пытанне аб захаванні прыродных комплексаў былога запаведніка, бо змена статусу адчувальна ўзмоцніла гаспадарчы прэс.

Выйсця шукаць не трэба, была б воля і годнасць дзяржавы. Вялікая частка экасістэмаў былога запаведніка мусіць быць аднаўленая ў сваім запаведным статусе. Нацыянальны парк маглі б скласці поймавыя ландшафты, тэрыторыя традыцыйнага прыродакарыстання, археалагічныя помнікі ды музеі. Словам, у Цэнтральным Палессі мы пакуль яшчэ маем магчымасць стварыць і Прыпяцкі запаведнік, і нацыянальны парк "Тураўшчына".

Кажу пра гэта, добра разумеючы, у якім крытычным стане сённяшняя эканоміка і на які жыццёвы ўзровень "залягло" грамадства. Гонар і годнасць, правільны сэнс часцей і часцей саступаюць "выжыванню". Яно пануе над усім і ўсімі. Але да месца ўспомніць: проста выжыць ёсць галоўным інстынктыўным "лозунгам" усіх жывых істотаў на Зямлі. Чалавек — істота разумная і побач з жыццём высока ставіць гонар, ісціну і жыццё нашчадкаў.

** **быў запаведнік...** Гэтыя словы прамаўляеш і з доляй шкадавання, і з доляй спадзеву на лепшы час*







*Фота: Міхал Козел*





** навуковы супрацоўнік Вольга Шарай*
** зачараваны плёс*
** падгляд пчол (борці)*

*Фота: Мікалай Шарай*



## ЛУЖОК LAWN

*У народзе, жадаючы добрым людзям рознага багацця, казалі: "Каб з таго семечка ды завялося насеннечка". Гэта значыць – каб радзіла зямля, каб поле было ўраджайным, каб у садзе раслосявялося, каб сям`я трымалася моцнага роду. А дзе пачатак усяму? Ды вось ён: з таго семечка...*

# Насенне, або Раслінка-дзяцінка

**С**емя — частка расліны. Яно вырасла й паспела на мацярынскай расліне. Гэта зусім маленькая расліна, раслінка-дзяцінка. Але ў ёй, такой ранняй ды маленькай, ёсць зародак – галоўная частка семя. Калі зрабіць тонкі зрэз семя праз зародак і паглядзець пад мікраскоп або моцнае шкельца лупы, можна ўбачыць тры пачаткі: карэньчык, націнне і лісцейка.

**Н**а першы погляд, насенне як нежывое. Але пад цвёрдай заскуравелаю абалонкай тоіцца жыццё. Пакладзіце семя гароха на мокрую вату ці нітніцу ў сподачку і не давайце ім прасыхаць. Праз дзень-два семя набракне, абалонка лопне — і пакажуцца карэньчыкі, а затым і сцяблінка.

**К**аб прарасці, семечку патрэбна вада, паветра і цяпло.

**А**дно семя мае кароткі век, а іншае – гады і нават тысячагоддзі. Напрыклад, у насенні вярбы і таполі жыццё перахоўваецца 5-6 дзён, гарбуз узыдзе й праз 8 гадоў, пшаніца – праз 8-12. А семя лотаса праляжала ў тарфяным балоце тысячу гадоў — і прарасло!

**Д**обры гаспадар захоўвае насенне ў халаднаватым месцы, куды як след даходзіць паветра. Бо насенне жывое, яно дыхае. Калі перасушыць семя гарбуза ці сланечніка, яно будзе лепш лускацца і зробіцца смачнейшае, але ў зямлі не ўзыдзе, бо ў ім загіне зародак.

**С**емя раслінаў, як і самі расліны, мае вялікае мноства выглядаў, форм і памераў. Напрыклад, плод какосавай пальмы, калі яго паважыць перад тым як пасадзіць, заважыць 2,5 кілаграма. А колькі заважыць макавае зернетка?

**Н**асенне кожнай расліны, што ёсць у прыродзе, — нечым абавязкова адметнае, выразнае. У клёна і ясеня ёсць крылле, на якім семя адлятаецца далёка ад дрэва, асабліва калі ў гэтым яму собіць вецер.

**У** полі, на лузе, у лесе-дуброве можна ўбачыць шмат краявідаў, малюнкаў прыроды, але часам можна ўбачыць сапраўдны цуд, калі пакласці ў далоні дробную дольку свету – насенне якой-небудзь расліны.

*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!*

Шаноўнае спадарства, чытачы і прыхільнікі!
З 2000 года газета "Белавежская пушча" пачне выходзіць у абноўленым часопісным фармаце. Выгляд выдання захавае лепшае, што прыдбана за папярэднія гады, але разам з тым набудзе больш поўны і адэкватны вобраз газеты прыроднага ўлоння.
Рыхтуйцеся да падпіскі на першае паўгоддзе-2000!

# Белавежская пушча: каляндар прыроды



*Фота аўтара*



* *поўдзень*
* *казка грыбнога лета*
* *у жніўні вужы рыхтуюцца да зімы*
* *трытоны пушчанскіх вадабадзяў*

**Віктар Бахараў,**
біёлаг

## Ліпень

Лес пакрысе пачынае сціхаць. Не чуваць, як было тое ў траўні, птушынай гамонкі, вольнага спеву. Цяпер, калі патомства ўзнялося на крылле, трэба вучыць немаўлят самастойнасці – дзе браць харч, як лятаць ў чародах, як выжываць. Цікава назіраць за стрыжамі, якія ўвечар з прарнізлівым піскам разразаюць улонне, выпісваючы дугі вышэйшага пілатажу, — вучацца!

Паспяваюць дарункі лесу. Саладка пахнуць суніцы; сабраць іх у нявялікі гладышык, прынесці дадому – вялікая ўцеха й сама прыгода. Нават адна жменька гэтай цудоўнай ягады падорыць вам лета. Толькі, калі гэта магчыма, не трэба спяшацца ў лес, як на базар ці ў краму. І трэск сухой галінкі пад нагой, і "фужэры" папарацяў, і ветлыя шаты ялінаў – гэта ўсё тое, што нельга купіць, але што напаўняе нашую памяць, дае асалоду эмоцыям. А калі пашчасціць яшчэ й пачаставацца з палян ды сёе-тое прыхапіць з сабою – гэта ўжо сапраўдны лясны "прэзент", як з таго "поля цудаў".

Прыемная нечаканка — падняць у траве камяністы плод ляснoй грушы. З'есці не з'ясі, нават не ўкусіш, затое ў памяці застанецца "смак" сустрэчы.

Хто едзе ў Пушчу, вядома ж, хоча пабачыць зубра. Большасць набіраецца ўражанняў праз сетку вальеры. Здаля або й зусім блізка – як пашанцуе. Пры жаданні можна пашукаць магчымасць застаць асілкаў, скажам, калі яны спакойна ды вольна паскубваюць маладую траву дзе-небудзь на аддаленых лужках. Аднак не варта забывацца, што ў зуброў заўжды існавала дыстанцыя, на якую яны падпускалі чалавека. Аднойчы у Пушчу прыехаў сталічны карэспандэнт, каб зрабіць для газеты ліпеньскі рэпартаж. Як жа тут было абысці ўвагаю цара звяроў. Мы выехалі на маляўнічую паляну і пачалі чакаць. А вось і зубры. Першымі з'явіліся самыя дужыя быкі. Затым у пэўным парадку выйшаў і статак: у сярэдзіне – маладыя зубраняты, з бакоў і тылу – магутная ахова. Карэспандэнт пачаў здымаць, набліжаючыся з кожным кадрам да мяжы дазволенага. Я паспрабаваў спыніць, але азарт фатографа быў куды вышэй маіх перасцярогаў. Яшчэ крок, яшчэ... і раптам увесь статак адным разам, нібы па камандзе, развярнуўся ды госцянепрашэнца. Трэба аддаць належнае прадстаўніку прэсы: вострае адчуванне небяспекі імгненна вярнула яго ў УАЗік, і здымкі ўжо працягваліся з кабіны.

Ліпень – гэта й пара вылету крывасмокаў. Ад дробна-крылатага насылання ратуецца хто як можа: лось хаваецца ў багне, зубры кладуцца ў ямы-купальні. Калі крывасмокі даймаюць і там, зубры пачынаюць качацца па зямлі. Алені гэтак жа, як зубры, робяць пясчаныя ямкі; паклаўшыся ў іх, яны смешна выцягваюць шыі.

Ліпень – краса й асалода пушчанскіх палян, развітальная шчодрасць лета. Ранак. Касыя промні сонца, быццам блакітныя слупы з Космасу. Раса і туман. На сонечную пляму выходзіць зубр. Нетаропка перабіраючы траву, знаходзіць самую смачную. Сталуецца. А сонейка ўзнімаецца вышэй, дазвання прасушваючы расу. Лес, паляны пачынаюць на ўсе лады пахнуць – і гэта ўжо не паддаецца апісанню. Трэба адчуваць. Нават пацяруха струхлелага дрэва мае свой адметны й на дзіва прыемны, з дамешкам смалы водар.

Лясныя паляны захоўваюць цэлыя скарбы пахаў: раніцай гэта найдалікатны водар кветак, у поўдзень – прыемная духмянасць нагрэтай жывіцы і спелых суніцаў, а вечарам... Вечарам, жывучы ў Пушчы, я атрымліваў рэдкую асалоду, калі пасля купання рабіў прабежкі па беразе ракі Лясной: у нізіне стаяў свежы дух з пахам валяр'яну, фіялкі, светніку, вышэй, з пагорка, сыходзіў цёплы струмень пахаў гваздзікоў, смолкі, верасу. Такая рэгулярная паветраная водара-тэрапія лепшым чынам уплывала на стан душы – ноч спаў моцным сном або сніў казачныя сны, такія як у маленстве, а раніцай прачынаўся з жаданнем усіх парабіць шчаслівымі. Ліпень шчодры, і чалавек таксама ад гэтага робіцца шчодрым душой.

## Жнівень

Лес Пушчы аціхнуў і чалавек яго зразумеў: надышоў жнівень. Час разважанняў, пладоў і дароў. І напамін: ці не час супыніцца, падумаць пра бурлівa пражытыя гады чалавечага лета.

На бярозах тым часам пажоўклыя космачкі-коскі – восень зусім недалёка. Сям-там і на клёнах з'явіліся першыя барвы. А ўваход-арка перад Музеем прыроды з кожным днём прыбіраецца ў чырвонае полымя амурскага вінаграду.



Раніцай чуецца асенняя прахалода. У народзе кажуць: першага жніўня алень капыты ў рацэ намачыў – купацца, маўляў, ужо нельга.

А лес па-ранейшаму вабіць, асабліва ў цёплыя дні. Тут аціхлы спакой. Зрэдку цішыню пераб'е стракатанне сарокі, дзесь абзавецца чародка драздоў-рабіннікаў. Настальгічна-шчымлівая пачуць у такі час голас жаўны. Яе жалоснае "Ціу-ціу" глыбока кранае душу, у вачах неўзаметку закруцяцца слёзы ўспамінаў пра шчаслівае мінулае. Але тут жа сябе й прысупыніш: "Успамінамі жыць яшчэ рана, жыццё наперадзе..."

У нетрах Пушчы наліваюцца-спеюць арэхі. Чырвоныя шышкі на елках змяняюцца гірляндамі зялёных – зімовая ўцеха вавёркам ды крыжадзюбам. А неўзабаве й пушчанскія дубы парадуюць жалудамі: штогод яны дораць да 500 тон пажыўнага ўраджаю – любімага ласунку аленяў, дзікоў і вавёрак. Да стала лясных жыхароў прыдасца насенне сасны (да 100 т) і елкі (да 40 т). Асобным сказам трэба сказаць пра ўраджай ягад: напрыклад, гектар чарніцаў дае да 600 кг ягад, журавінаў — аж 1,5 тоны. Чарніцы, журавіны, бараўіцы – найпершая яда глушца й цецярука.

Яшчэ нядаўна Павел Міхалевіч, дырэктар Музея прыроды, у жніўні збіраў выставы грыбоў, каб паказаць іх не адно дома ў Пушчы, але і ў Брэсце, Мінску, Маскве, у Польшчы. Пасля сябе нястомны энтузіяст пакінуў дзівосную экспазіцыю адметным чынам муміфікаваных грыбоў. Гэта вельмі падобна на казку – пад музейным шклом ляжыць грыб, што жывы, і ўсе адценні на ім, здаецца, захоўваюць колеры й гукі ляснога ўлоння.

Пачынаецца пералёт птушак. Адлятаюць ластаўкі, стрыжы, напагатове буслы і журавы. Убачыць у небе жураўліны касяк – радасць кожнай душы, разам з тым і лёгкі сум па цёплым леце, а вячэрнія перазовы птушак на багнах – гэта сімфонія жыцця.

У жніўні мігруюць не толькі птушкі. Вялікія масавыя перамяшчэнні адзначаны ў вадзяных пацукоў у Палессі. Зрушванні адбываюцца часцей за ўсё ў дажджлівыя ночы, і таму яны мала прыкметныя. Але паспрабуй у такі момант пасвяціць на дарогу фарамі аўтамашыны, як перад вачыма паўстане суцэльны чорны варухлівы дыван.

Да змены месцаў абуджаюцца й жабы, інстынкты выводзяць іх часам на самыя непрыдатныя скрыжаванні з цывілізацыяй. Вось якую гісторыю распавёў відавочца, старшыня калгаса на мяжы з Пушчай. Пад вечар пасля дажджу ён вяртаўся дадому. Перад сялом дарога пайшла праз лес, але якраз тут шашу перасекла цёмная стужка шырынёю каля 20 метраў. Яна была як жывая. Калі пад'ехаў бліжэй, убачыў шчыльную масу жабянят, якія рухава скакалі да прызначанага месца. Кіроўца спыніў машыну, пачаў цярпліва чакаць. Прайшла гадзіна, але цёмная стужка не перапынялася. Аб'ехаць было немагчыма, бо жывы паток варушыўся ў траве; заставалася развярнуцца ды пашукаць іншую дарогу дамоў.

У Белавежскай пушчы сялібуюць тры віды вужакаў: вуж, мядзянка, гадзюка звычайная (ядавітая). Цікавая дэталь: калі вуж ліняе, на галаве ў яго застаецца лускачка, якую ён пакуль не скінуў. У народзе гэта атрымала інтэрпрэтацыю каранаванай гадзюкі, так званай цар-змяі са срэбрачай каронай... Але наперадзе верасень і вялікае рэлігійнае свята Узвіжанне. Лічыцца, што ў гэты час перад доўгай зімоўкай сходзяцца ўсе змеі лесу да месцаў зборышчаў. Але тое наперадзе, як і шмат што яшчэ, з чым неўзабаве завітае да нас восень.

SUMMARY

*Series of Belovezhskaya pushcha sketches contain a lot of seasonal nature observation. July-August issue.*

# Толькі ў пашане і ўдзячнай зычлівасці да сусвету чалавецтва здольнае выжыць

*“Чым больш светлячкоў загарыцца ў начным змроку, тым меней шанцаў застацца ў цемры”*

З мноства розных заняткаў, якія мы спаўняем найбольш часта і якія ўважаем за самыя неабходныя, трэба яшчэ й навучыцца нефармальна ладзіць дыялог з прыродным асяроддзем і, праз яго, з сусветам. Гэта падобна на вандроўку, што вабіць і захапляе, кліча на неабсяжна бясконцыя шляхі нашай светабудовы, кожнага асобнага чалавека і чалавецтва наогул... І паўстае пытанне: “Ці туды мы, людзі, трымаем свой шлях, ці так абжываем гэты сусвет? Мы ж – толькі маленькія кропелькі ў неабдымна вялікім колазвароце няспыннага патоку часу?!”

Кожны з нас – нібы ўспышка святла на вялізазным небасхіле. Згараючы ў сваім непаўторным імгненні бясконцасці, мы аддаем сваю долю цяпла. Гэта і ёсць тое імгненне ў вечнасці, за якое адно й магчыма выявіць сябе цалкам... У спаконвечных парываннях да свайго дому ды шукаючы тое, што заўсёды з табой, трэба памятаць пра крыніцу ўнутранага святла і цяпла, магчымасць самааддачы й выпраменьвання. Выглядае на сталы абмен – асяроддзе дорыць магчымасці нам, а мы, скарыстаўшыся імі, з падзякай, радасцю і глыбокай пашанай вяртаем яму памножанае працай наша ўнутранае багацце, чысціню і гармонію.

Свет дае нам зямлю, каб накарміць чалавецтва й падтрымаць яго фізічнае існаванне. Мы бяром энергію сонечнага святла і паветра, таксама агонь і ваду, каб напоўніць свае арганізмы жыццядайнымі токамі. Што аддаём за гэта ўзамен? Святло чалавечых сэрцаў. Добрыя ўчынкі, пачуцці. Усмешкі і радасць. У рэшце рэшт – сябе ў надзвычай гарманічнай якасці. Мы часціна гэтай вялізнай майстэрні, і чым больш светлай энергіі будзе ўнутры кожнага з нас, тым мацнейшае будзе святло ў калысцы чалавека, яго доме. Чым больш светлячкоў загарыцца ў начным змроку, тым меней шанцаў застацца ў цемры.

Экалогія гучыць як чысціня, ачышчэнне, асветленасць. А духоўная экалогія ўразумявае ачышчэнне перш-наперш кожнага з нас – маральна, душэўна, фізічна. Вось дзе крыніцы ачышчэння й асвятлення нашага дому, планеты, майстэрні, прыроднага асяроддзя!

Як наладзіць працэсы духоўнай экалогіі? Як палюбіць гэты свет, як дакрануцца да гармоніі? На пачатак – адно самае першае правіла: трэба сцішыцца і прыслухацца, ці не замінае штонебудзь нам зараз паяднацца з асяроддзем і светам?.. А наогул, сябры, прыходзьце, хто пажадае, да нас, у грамадскую арганізацыю “Сонечны шлях”. Кожнаму ўдзельніку практычных заняткаў мы прапануем дыягностыку асабістага стану з адпаведнай картай. Выкарыстоўваецца шэраг бегавых, забаўляльных, падгрупавых, індывідуальных методыкаў самабудовы. Спасцігаючы кожную з іх ва ўзаемазвязку з іншымі, мы ўцягваемся ў працэсы напаткання сябе ў новых якасцях. Тут кожнае імгненне можа прынесці штосьці-небудзь нечаканае, што дапаможа выявіць індывідуальны сэнс і сэнс сябе ў светабудове. Спевы птушак, дзюрчанне крыніцы, шапаценне лістоты – усё пачынае гучаць крыху па-іншаму ў нашым жа ўспрыманні. Мы ператвараемся ў інструмент, на якім жыццё йграе сваю непаўторную казачную музыку... І ўсё навокал зачаравана слухае гэты грай-аркестр. У такім незвычайным сугуччы распускаюцца новыя дзівосныя кветкі, мкнуць у неба вольныя птахі, нараджаюцца новыя фарбы сусвету.

“Сонечны шлях” паспеў зрабіць ужо некалькі падарункаў навакольнаму свету. Менавіта: зладзіў каля двух дзесяткаў практычных семінараў і круглых сталоў, арганізаваў тэатралізаванае свята для дзетак-сіротаў і два турыстычна-экалагічныя летнікі.

Сёлета мы пачалі доўгатэрміновы праект “Экалагічны каляндар”, ладзім практычныя семінары духоўна-экалагічнага аздараўлення “Кропелькі расы”, на якія збіраем моладзь.

Наша суполка расчынена насцеж для супрацоўніцтва з іншымі экалагічнымі арганізацыямі ды ўсімі, хто імкнецца знайсці магчымасць для ўнутранай самабудовы, каб змяніць асяроддзе да лепшага.

***Кацярына Ладуцька,*** 25 гадоў.
Для стасункаў:
тэлефон у Мінску 238-44-46

* *на здымку добра відаць, які лес сёння выразаецца пад выглядам прыбірання ветравалаў. Аўтар фота даводзіць, што палёг менавіта жывы лес-самасей, які ў свеце ўважаецца за самы элітны, лес-семеннік, лес-першаабраз.*

*Фота: Неруш-прэс, 1998*




*“Свіслач заплывае брудам, смеццем і нашай абыякавасцю”*

Шаноўная рэдакцыя!

Гэты кароткі ліст пішу вам выключна з намерам зазначыць з'яву, зафіксаваць факт. Бо асабісты досвед, на жаль, не пахіляе ўжо да спадзяванняў, што ў нашым жыцці нешта можа істотна змяніцца да лепшага. Прынамсі, у той меры, што прыватная думка здольная хоць неяк закрануць дзяржаўную службу, спагнаць за віну... Але пішу, бо ў газеце ёсць “Кола”, чытачы, аўдыторыя “трэцяга сектару” — тая актыўная частка грамадства, на якую застаецца каліва надзеі.

25 травеня (гэта быў аўторак) я апынулася ў Траецкім прадмесці. Вечар, каля 19.00. Вакол вельмі ўтульна, прыгожа. І таму, што Менск асабліва прывабны ў такія хвіліны, і таму, што на дварэ стаяў травень – цёплы, ласкавы, у маладой зеляніне. Гуляла шмат моладзі.

Я ўжо мінала мост цераз Свіслач, калі раптам заўважыла: ад берага да берага Свіслач плыла ў брудзе... фекаліяў. Зрабілася балюча і сорамна. Дзень як патух. Настрой сапсаваўся.

Вечарам я не ведала, да каго стукацца, каб паведаміць пра свае назіранні. Належнай інфармацыі ў нас на гэты конт бракуе: куды і каму. Але назаўтра раніцай я знайшла тэлефонныя нумары і звязалася з адпаведнымі службамі, якія адсочваюць якасць навакольнага асяроддзя ў горадзе. Гэта гарадская санстанцыя і камітэт прыродных рэсурсаў.

На жаль, я адчула іх поўную абыякавасць: кіраўніцтва, маўляў, занятае, а ў дыспетчара сігналаў не было – і ўся рэакцыя. Вось гэтае “сігналаў не было” насцярожвае больш за ўсё. Лічы, у цэнтры сталіцы здарылася надзвычайнае здарэнне, а яго ніхто не заўважыў. Як так? Што ж казаць тады пра ўсю нашу астатнюю прыроду, якая, пэўна, зведвае няспынны гвалт з-за поўнай адсутнасці якога-кольвек кантролю. А што да Свіслачы, дык яе ўсё больш не пазнаць. Рака ператвараецца ў нежывы цякучы асфальт, заплывае брудам, смеццем і нашай абыякавасцю. Даруй, Божа!

***Людміла Міронава,***
афарміцелька,
Мінск.

SUMMARY

*Our readers answer a poll, and make a number of proposals on how to improve the paper and make the environment safer.*

*“Бяздумныя карыслівыя стварэнні ці культурная публіка — хто мы, у рэшце рэшт?”*

Неяк на днях, не вытрамліваючы гарачыні, пайшла на возера, што недалёка ад мікрараёна “Усход”.Прыйшла і доўга хадзіла па беразе, бо ніяк не магла знайсці чыстага месца, дзе можна было б прыпыніцца. Скрозь валяліся бутэлькі з-пад піва, пакеты, скрыні ды іншае смецце. Увогуле, тыповая сцэна нашага побыту – адсутнасць чысціні і парадку, свядомасці і культуры, брак выхавання. Няўжо мы такія бяздумныя і карыслівыя стварэнні-аднадзёнкі, што не думаем пра заўтрашні дзень, пра інтарэсы астатніх?

Нехта прачытае мае радкі і скажа: “Вось, яшчэ адно расчараванне”. Аднак я не скончыла. Бо галоўнае, што хачу сказаць: ва ўмовах індустрыяльнага росту павінен расці й пашырацца грамадскі экалагічны рух. Не адно ў вялікіх гарадах, але і ў месцах, дзе жыццё вельмі ціхае. Першыя, хто гэтую цішыню можа парушыць, будуць суполкі “зялёных”. Працы хопіць усім спаўна і яшчэ застанецца. Бо ўсюды ёсць вада і паветра, рэчка альбо возера, тая ці іншая вытворчасць, за якімі патрэбны сачэнне й кантроль з боку грамадскасці.

Вельмі важна пачаць. Пажадана з якой-небудзь справы. Мы далі старт год таму і ўжо шмат што паспрабавалі. Крыху ачысцілі засмечаны лес (там, дзе змаглі, бо што можам зрабіць з вялікім сметнікам аўтамашын?)

Таксама садзім дрэвы, напрыклад, у дзіцячых садках, паркавай зоне, на вуліцах горада. Мінулай восенню і гэтай

вясной пасадзілі каля 200 дрэў, на жаль, ёсць ужо і зламаныя.

Пачатак лічым для сябе ўдалым, але далейшую дзейнасць клуба збіраемся пашыраць і ўдасканальваць. Вядома, пры ўмове, калі нас будзе больш. Трэба як мага дапамагаць экалагічнай адукацыі ў школах горада, залучаць моладзь да прыродазберагальных акцый. Часам адчуваем востры недахоп асабістай экалагічнай дасведчанасці, ведаў і ўсебаковай, грунтоўнай падрыхтоўкі. Таму ў кожнага сябра клуба ёсць жаданне браць удзел у трэнінгах і семінарах, канферэнцыях, вучыцца самім і вучыць іншых, развіваць супрацоўніцтва.

Каго зацікавіла наша арганізацыя, будзем рады атрымаць водгук.

Клуб "Жывая зямля" мае адрас і тэлефоны ў Брэсце:

Кожухаву Юрыю, вуліца Крывашэіна, д.11, кв.69, Брэст, 224023;

тэлефанаваць: 42-56-21, 20-27-10 – Юрыю, 41-74-69 – Тацццяне.

***Таццяна Драздова,***
Брэст,
студэнтка

## "Сам я не педагог, але думаю пра выхаванне"

Добры дзень, "белавежцы"!

Ваш выпуск з "Правам на жыццё" атрымаўся надзвычай цэльным і пераканальным. Трэба з апошніх сіл імкнуцца да міжнародных норм і стандартаў, якія існуюць і цалкам даступныя. Каштоўнасць жыцця – адна з найгрунтоўных маральных катэгорый. Але чалавеку важна ўсведамляць не адно сваю каштоўнасць, але й "роду ўсяго жывога", з кім належыць дзяліцца экасістэмай. Ніводны з гэтых "бакоў" не павінен абмяжоўвацца ў правах.

Нядаўна зрабіў для сябе карыснае назіранне, якое сведчыць пра зрушаныя ўяўленні многіх людзей.

Збіраючы лекавую траву, напаткаў ля Калодзішчаў чалавека. Мясцовы жыхар, на пенсіі. Падкошваў для каровы лапікі добрай травы. Так ён сказаў: "добрай травы". Я мякка запярэчыў, маўляў, якая ж яна тут добрая, калі ў трох метрах ад дарогі. З намі акурат параўняўся гружаны самазвал, ды так даў газу, што, здалося, трава палегла.

"Гэта ўжо нас не пройме, — спакойна адказаў мой сустрэчны. – Хапілі сталькі, што горш не будзе..."

Пазней, надвячоркам, размаўляў с жанчынай, што ў прылеску ставіла ў копы сена. Гаворка атрымалася цёплая і зычлівая. Доўга распавядала пра цяжкасці й горасці, пра благое здароўе, сваё і вяскоўцаў, але ў канцы сказала: "Абы не горш..." "А што, па Вашаму, горш?" –пытаюся. "Як, што? Вайна, Чарнобыль... Ці гэтая НАТА..."

Такая вось прыпавесць. А цяпер падумайце, шаноўныя рэдактары газеты "Белавежская пушча", пра што і як трэба пісаць, каб людзей "праняло", дайшло да свядомасці і перакананняў. Сам я не педагог, але думаю, што толькі разумнае выхаванне здольнае прывіць чалавеку нармальныя звычкі, устойлівыя перакананні. Таму й прапаную трымаць самы цесны кантакт са школамі, ліцэямі, настаўніцтвам раёнаў.

Боязь таго, што будзе "горш", вельмі абмяжоўвае ўяўленні людзей пра каштоўнасць жыцця, свайго і чужога, робіць іх пасіўнымі ў адстойванні біясфернай спадчыны, нават у засцярожлівым стаўленні да сябе ці сваіх блізкіх, уласнага здароўя. З`ява занадта тыповая, каб заставацца ўбаку экалагічнаму выданню. Прыміце гэта за падказку з пажаданнем поспехаў. "Кола" заўсёды чытаю, таму і сам вырашыў напісаць.

З павагай
***Анатоль Небышынскі,***
беспрацоўны.
Мінскі раён,
г. Заслаўе



З калекцыі ўражанняў. Лета-99.

* каплічка ў мястэчку Гарадзішча (Баранавіцкі раён)

*Фота: Валеры Дранчук*

## "Без кантролю "зялёных" лесу наступіць хуткі канец"

Добры дзень, "Белавежская пушча"!

Пра вашу газету даведаўся з некалькіх публікацый пасля ўзнагароды яе прэміяй Генры Форда. Прэса не абмінула гэты факт, і, мяркую, зрабіла вельмі правільна, бо падтрымала такое неабходнае выданне, паспрыяла рэкламе. Тымчасам у шапіку прадаваўся апошні нумар, які з цікавасцю купіў за 35 тысяч. А неўзабаве і падпісаўся на паўгода; праўда, хачу заўважыць, што падпіска занадта танная для такой газеты. Лічыў бы да месца падзячыць рэдакцыю і за даступны кошт, і за апошні чэрвеньскі нумар (бо іншых не бачыў). Першае, што нечакана ўразіла, — гэта Орхуская канвенцыя аб доступе грамадскасці да экалагічнай інфармацыі.

Узнікае шмат пытанняў у звязку з тым, што ўжо сёння дакумент мае юрыдычную сілу ў Беларусі. Напрыклад, ці ведаюць пра яго міністэрствы і ведамствы, іншыя органы, якія прымаюць рашэнні, звязаныя з навакольным асяроддзем? Ці не з'явіцца гэты важны міжнародны дакумент яшчэ адной рэкамендацыяй для нашай аўтарытарнай краіны? Напрыклад, захоча Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта перайменаваць запаведнік у нацыянальны парк – і зробіць гэта без усялякай працэдуры "ўдзелу грамадскасці". Можа, пытанні рытарычныя, але яны кружацца як мухі, калі чытаеш Канвенцыю.

Мне думаецца, што цяпер трэба, дык гэта разабрацца з меліярацыяй, з тым бюджэтам, з якога яна жыве. У абсалютнай большасці гэта немалыя народныя грошы, якія ўходуюцца без дай рады. Мясцовыя грамадскія суполкі, хоць іх яшчэ вельмі мала, маглі б аказаць "шэфскую дапамогу" дзяржаўным фінансавым органам у выяўленні марнатраўства – і грошай, і прыродных рэ-


МІНСКВОДБУД
тэл. 2-62-85-26, 2-62-84-65
вада на ўсіх


сурсаў. Орхуская канвенцыя дае такі шанец. Скажам, ідзе ў раёне ачыстка меліярацыйных каналаў. Колькі гэта каштуе, з чыёй кішэні і ці патрэбна яна наогул? Па сутнасці, гэта ўзнаўленне былога татальнага варварства. Атрымаўшы належную інфармацыю, можна разважаць, спрачацца або крычаць "каравул".

Шмат пытанняў па лесе. Куды ні паглядзіш – усюды завіхаюцца нарыхтоўшчыкі. Суцэльныя высечкі. Часам ківаюць на лесапавал. Але гэта мана. Бура павалiла два-тры дрэвы, а сюды едзе арава тэхнікі й рэжа лесу на два гектары. Каму сёння ў галаве (апроч тых, хто пасылае), адкуль гэтыя нарыхтоўшчыкі, куды і па якіх коштах "сплаўляецца" лес, хто вызначае дзялянкі і што з гэтага мае мясцовы люд. Не трэба забывацца, што лес – стратэгічны тавар, на ім завязваюцца вялікія здзелкі, і без кантролю "зялёных" яму хутка прыйдзе поўны канец. А мясцовыя жыхары маўчаць, бо ўся гэтая "стратэгія" аніяк не закранае іхнія інтарэсы.

Цалкам падзяляю думку газеты, што Орхуская канвенцыя стымулюе грамадскі рух, разам з тым ад яго і залежыць.

***Віктар Старажавы,***
інжынер-электрык (у маладосці працаваў у меліярацыі)
Брэсцкі раён

## "Мужнае слова — "абараню..."

Добры дзень, шаноўнае выданне!

Сёння атрымала ваш чарговы нумар і ўжо амаль дачытала. Цяпер буду прапаноўваць знаёмым, сябрам. Спадабалася "Анталогія", "Кола", "Шэдэўры светабудовы", "Слова рэдактара". А неяк раней вы пісалі, што трэба не толькі любіць прыроду, але й абараняць словам праўды, перасцярогі, смелымі ўчынкамі. Гэтую думку вельмі добра выказала Ларыса Геніюш у наступных радках, хоць датычаць яны роднай мовы:

*"Сёння на пласе родная мова,*
*Вырваць жывую належыць з агню*
*Слова "кахаю" - слабае слова*
*Мужнае слова - "АБАРАНЮ".*

Зразумела, у прыроды і роднай мовы – агульнасць лёсаў. Аднолькава паганіцца і тое, і другое. Таму жадаю газеце "мужных слоў", хоць і лірычную канву яе прымаю цалкам.

***Алена Ходарчык,***
мястэчка Гарадзішча,
Баранавіцкі раён.

### ПОДЫУМ

Такая назва фотавыставы замоўлена ў праграму *Дня Зямлі-2000*. Ідэя – паказаць хараство жывой прыроды, перш-наперш тых відаў фауны, якія становяцца ахвярамі моды і браканьерства. На "подыум" фотавыставы запрашаюцца майстры са сваімі адметнымі фотамадэлямі. Падрабязна пра ўмовы чытайце ў наступным нумары.
А пакуль... не губляйце час. Натура чакае.
Тэлефон для даведак 236-50-76 ( газета "Белавежская пушча").

# Аўтапартрэт з вербалозных галінак

## Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі

**_Валеры Дранчук_**

*Заканчэнне. Пачатак у №№2(17), 3(18)*

**Выток 5/*****

Калі глядзець адтуль, ад вытоку маёй Гавязьнянкі, з рэчышча забітай рэчкі, дзяржава, дальбог, выглядае монстрам. Прыродазнішчальная машына пад пачварна-жудасным панцырам абрэвіятур – "ПМК", "БМУ", "МУААС" – ствараліся ў навукова-даследчых інстытутах, міністэрствах, кабінетах улады, на самым высокім стратэгічным узроўні.

Загінула, сышло ў нябыт каля 80 працэнтаў усіх малых рэчак Беларусі, такіх як мая Гавязьнянка. Сёння, здаецца, пад гусеніцы лёг бы таму экскаватару, што кіламетр за кіламетрам, нібы цмок, праглынуў рачулку.



Рэалізацыя варварскіх праектаў каштавала дзяржаве вялікіх грошай з казны. Большасцю яны пайшлі пылам, прараслі быльнягамі няўроду. Зямля закурэла там, дзе спаконвечна раскашавала сенакосамі ў пояс чалавеку, люляла таямніцы прыроды, несла малому і старому свежасць ды асалоду.

Не адзін раз думаў: вось каб тыя мільёны, мільярды рублёў – ды людзям далі, запамагліся іхняю радаю, падтрымкаю, працаю – на зберажэнне ракі, мясцін-краявідаў, лугоў-сенажацяў. Ды назвалі гэта не перасоўнымі механізаванымі калонамі (ПМК), ад якіх часам мурашкі па спіне, а Беларускаю талакою. Няўжо, думаю, у народзе нарадзілася б ідэя спраставання рэчак з асушэннем балацінак, знішчэннем сажалак, крыніц, ручайкоў? Сумняваюся...

Няхай даруе мне мастак Ш., аўтар карціны "Меліяратары балотаў", датаванай 1969 годам, з якой я спаткаўся аднойчы ў залах Беларускага мастацкага музея; гледзячы на яе, мне падалося, што хтосьці вырашыў злосна паздзеквацца з праўды, з мяне. Людзі на палатне – мужчыны й жанчыны - паўставалі ўвасабленнем вялікага зямнога дабрадзейства, з анёльскімі тварамі, быццам у храме перад іконаю. А за "святым" сюжэтам – я адчуваў гэта кожнаю клеткай сваёй крыві – былі трагедыя, драма, грэх перад беларускай зямлёю. Праўда, калі ствараўся "шэдэўр", гэтай трагедыі яшчэ не было ў мастака, не было, відаць, і асабістага болю, шчымлівага смутку і жалю. Я доўга ўзіраўся ў палатно-фальсіфікацыю. Шкадаваў, думаючы: колькі б зусім іншых палотнаў намаляваў сам, калі б дазвалялі майстэрства і талент.

**Галерэя памяці 5/*****

Зямля наша, наш край – скарб непаўторны. Такога няма нідзе. І тое, што з-пад бульдозерных напластаванняў, пасля шматпакутнага ўкрыжавання прабіваецца крынічка, зялёны парастак белакапытніку – гэта вялікае дзіва, але і мудры ўрок — чалавек не павінен варагаваць з прыродай. Прырода – маці, і мы на яе ўлонках усяго толькі дзеці.

Вясной 1998 года Стаўбцоўскі райвыканкам прыняў рашэнне аб ахове тэрыторыі разрастання белакапытніку на *хутары Гавязна*. Пазнаёміцца з месцам будучага батанічнага заказніка прыехала "ўся" райінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя у складзе начальніка Дзмітрыя Астрэйкі і ягонага калегі Анатоля Ляшкова; да нас далучылася мясцовая эліта: старшыня сельсавета Ядзвіга Дзмітрэнка, настаўніца біялогіі Леаніда Нарановіч і галоўны аграном

> ***Меліярацыя**, што шырокамаштабным наступам рушыла на Беларусь пасля вайны, ахапіла два мільёны гектараў плошчы, каштавала больш за 10 мільярдаў долараў ЗША, падвергла моцнай эрозіі глебы, знявечыла й занячысціла рэкі, змяніла клімат, сталася ў рэшце рэшт наймагутным дачарнобыльскім катаклізмам, які адбіўся на сіле і ўстойлівасці навакольнага асяроддзя і чалавека.*

Іван Новік. Дзень быў сонечны, бераг сажалкі выглядаў ужо самавіта – белакапытнік рушыў у рост, залапушыўся, роўных яму ў зялёным спаборніцтве тут не было..

З-пад Нясвіжа, з-пад самых, няйнакш, радзівілаўскіх прыазёрна-паркавых зялёных атулкаў дзьмуў цёплы парыўны вецер. Як было не адчуць тыя зялёныя тэлеграмы з нагоды высакародных людскіх фармальнасцяў! Было пастаноўлена, што з гэтага часу ў гэтым месцы пойму Гавязнянкі чапаць ніхто не будзе. Забараняецца. Прыкінулі — каля пяці гектараў. Тэрыторыя невялікая, але надзвычай кампактная, спазорная, трансмежавая; калі на тое, дык і нясвіжскі бок мог бы далучыць свае два-тры гектары забалочанага берага, тады ўжо размова ішла б пра заказнік міжраённага чыну. Але гэта калі...

Аглядаючы ды нахвальваючы мясціну, яе малюнкавы ўпадзісты краявід, усе схіляліся да перспектывы: маўляў, калі не чапаць, дык усё хутка й вернецца – прыбудзе вада, астоіцца забалаць, узновяцца разназёлы, зацягнуцца асакою равы. Адвеку ж прырода дала ў гэтым месцы супын вадзе, значыць, тут ёй і быць. Дый хто ведае, можа, праз сотні гадоў, калі крынічкі напояць улонне сажалкі, з-пад белага каменя, дзе колісь мачыла ногі крушына, праціснецца ў свет новы выток Гавязьнянкі...

Аднак ні пячаткі на дакументах, ні ўчыненыя подпісы пад Ахоўным абавязацельствам не адсунулі пагрозы ад ахоўнага месца. Лета гэтага ж года стала першай перасцярогай на будучыню. Раённая служба эксплуатацыі меліярацыйных сістэмаў распачала чыстку каналаў у пойме Гавязнянкі; экскаватар выбіраў чарпаком сярэдзіну рэчышча, выкідаючы на бераг багнавы разназёл з камянямі ды глейна-пясчаную донную гразь.

Вада ў канале, дагэтуль прыцішаная, зноў пачынала бегчы шпарчэй. Мусіла бегчы. Да мора, такога далёкага і чужога. Наўпрост.

Цень мінулага быў зусім побач.

"На малыя каналы не пойдзем, — запэўніў меліяратар. – У арганізацыі пакуль няма грошай".

Праз год гісторыя нечакана паўтарылася. Напэўна, знайшліся сродкі пачысціць і малыя каналы. У панядзелак раніцай, 2 жніўня 1999 года я пачуў знаёмае тахканне матора і выйшаў за хутар. Пры лузе стаяў экскаватар. Я хуценька спусціўся ўніз, падышоў да механізатараў і спытаў, ці ведаюць яны што пра ахоўную дзялянку. "Нічога ніхто не казаў". "А што маеце тут рабіць?" — "Чысціць вось гэты канал" — паказалі ў бок запаведнай мясціны.

Я распавёў пра далікатныя акалічнасці. Меліяратары не сталі ўпарціцца: "Добра, мы пачакаем, але вы пазваніце ў раён". Скочыў на ровар і праз хвіліну быў у мястэчку. З сельскага савета патэлефанаваў у райінспекцыю прырод-


Збіраўся скарб...



Да слава табе, божа,
Што мы жыта пажалі,
У снапочкі павязалі,
У бабачкі пастаўлялі...

Беларуская народная творчасць.
**Жніўная песня**

***Вітаем старых і новых кліентаў, зычым прыбыткаў і ўдалых набыткаў***

Нашы паслугі – Ваш выбар:

- **крэдытаванне юрыдычных асобаў** тэл.223-82-40
- **продаж камерцыйных і дарожных чэкаў** 223-86-70, 223-86-10

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ БАНК

**Мінск,вул. Максіма Танка, д.1, тэл. 223-84-57**

*Даведка рэдакцыі:*

**Беларускі народны банк** -- *самы сталы ўдзельнік экафундацыі на старонках газеты* **"Белавежская пушча"**


SUMMARY


*A Self-Portrait in Willow Branches is the title of this ecological essay by Valeriy Dranchuk, which he dedicates to a brook of his childhood. It is a journey through space and time to the source of his beloved Havaznyanka stream, to events of the 60s, and to those people who decided the fate of the natural world. Illustrations and photographs by the author.*

ных рэсурсаў. Трубку падняў Анатоль Ляшкоў, які ад самага пачатку рыхтаваў ахоўныя матэрыялы. “Наш белакапытнік пад стралой экскаватара, — сказаў я. – Меліяратары не бачылі Ахоўнага абавязацельства. Хто, увогуле, кантралюе меліярацыйныя работы ў раёне?..” Анатоль Адамавіч мяне перапыніў. “Будзьце на месцы, усё зразумееў”, — пачуў я голас са Стоўбцаў.

Праз паўгадзіны мы ўжо стаялі на беразе сажалкі з галоўным інжынерам раённай службы эксплуатацыі меліярацыйных каналаў, які выехаў на аб‘ект па сігналу Ляшкова.

“Калі б мы ведалі, дык летась не чапалі б тут і вялікі канал, — сказаў ён, дэманструючы разуменне. – Няхай сабе будзе балота, як і было”. На развітанне ні то параіў, ні то папрасіў: “Калі ведаеце яшчэ такія мясціны ў раёне, скажыце нам, мы не будзем там нічога рабіць”. З сабою ў машыну ўзяў ліст белакапытніку: “Пакажу начальніку...”

Гледзячы ўслед УАЗіку, мне толькі й заставался роспачна падумаць:

“Засцерагла выпадковасць, а не Ахоўнае абавязацельства. Чым засцерагчыся надалей?”

**Рэчышча 5/*****

Дваццаць чацвёртага траўня мне прысніўся сон. Сон называўся “Тапельцы”. Я вудзіў на Шырокім, куды ў ясны сонечны поўдзень любілі злятацца фіялетавыя стракозы. Але гэта была раніца ці, магчыма, вечар. Клаліся доўгія лёгкія цені. Закідваючы вуду, я памкнуўся на самы край берага і згледзеў у хвалях тапельца. Ён ля-жаў на спіне, паклаўшы на калені рукі. Галава прыбілася да самага берага. Валасы, даўгаватыя і светлыя, паласкаліся ў празрыстай вадзе, перапляталіся з водарасцямі. Хто гэта? — жудасць і страх яшчэ не ахапілі мяне, я хацеў пазнаць тапельца. На твары ўжо выступілі плямкі нежывога, адна шчака выглядала падпухлай.

Я адвёў позірк улева, куды мкнула вада, сілячыся зрушыць цела тапельца, і ўбачыў на пясчаным дне фігурку дзіцяці. Поза яе мне здалася такой, быццам дзяўчынка забаўлялася. Але ўся жудасць была ў тым, што вада ўжо забаўлялася з дзяўчынкай, перакідваючы лёгкае цельца з белай палоскай трусікаў.

Раптам я разгледзеў сцяну змураванага замка; каля сцяны стаяла згорбленая фігурка хлопчыка гадоў шасці. Ён абапёрся адной рукой аб сцяну, другая цалкам належала плыні вады.

Колькі разоў на дзень я супыняўся, вяртаючы ў думках сон, намагаючыся спасцігнуць сэнс начнога “кіно”. Які рэжысёр-мастак так памайстэрску выбудаваў кадр, скантруяваў сюжэт, праўдападобнасць якога змушала сціснуцца сэрца! І што за гэтай дзіўнай, знешне праўдзівай фантасмагорыяй? Дзеці-тапельцы? Я не памятаю,каб на маёй Гавязьнянцы хто-небудзь хоць аднойчы лёг у смяротных сударагах на дно. А тут ажно тры мерцвякі, бяскрыўдныя ахвяры ціхай вады, што сплыла назаўсёды.Я шукаў адказу і доўга яго не знаходзіў. Нарэшце мне захацелася плакаць. Як над калыскай, у якой ляжыць нежывое дзіця. Я прысеў недзе ў зручным, таемным куточку вячэрняга ўлоння, апусціў далоні ў твар. Пачуццё горкае роспачнасці не адразу, хваля за хваляю, агортвала ўсю істоту. Я аплакваў сон, я ліў слёзы, якіх ніхто не бачыў.

**Выток 6/*****

“Станіслаў Антонавіч Галоўня. Так і перадай бацьку. Мы з ім равеснікі, добра ведаем адзін аднаго”, — з годнасцю прадставіўся наш сустрэчны навасёлкавец, калі мы спачатку дэталёва расказалі пра сябе, хто ды адкуль. Тут, на канале непадалёку гасцінца, Станіслаў Антонавіч ірваў “плiснёг на цыбулю”. Пра рэчку загаварыў ахвотна. Жмурачыся на адно вока, шырокімі нетаропкімі жэстамі значыў патрэбны напрамак паводле ўласных уяўленняў, да якіх, па ўсім відаць, даўно не выпадала звяртацца. “Тут было балота, дрыгва. Але рэчка бралася вышэй, аж каля Цвіркавай гары, дзе таксама балотца, мо ведаеце. І гэта, па праўдзе, не рэчка яшчэ, а ручай, жылка. Рэчка будзе далей, — дзядзька павёў рукою ў процілеглы бок, — ля Раманавай гары, дзе пясок людзі бралі, адкуль дзве дарогі, адна на Зарэчча, а другая праз мост на гасцінец. То гэта і будзе ўжо Гавязьнянка”.

Здалося, казаў так, быццам не было канала, не было асушэння, быццам там, на раздарожжы, дагэтуль стаіць той драўляны мост з парэнчамі, пад якімі я рукамі лавіў печкуроў.

Развітаўшыся з Галоўнем, рушылі на гасцінец, а затым, цераз пастаўнікі, у бок Цвіркавай гары. За невялічкай, хатаў дзесяці, вёскай Стрыхараўшчынай канал, набраўшы вадару поля, хаваўся за ўзлескам. Мы выйшлі на лугавіну, хораша затуленую кучаравым альшанікам, які сцяною падступаў да канала. Мясціна выдавала прыкметы былое балацявіны. Вышэй у зеляніне саду раскашаваў хутар, абнесены высокім плотам. Канал канчаўся за лугавінай. У яго галавах стаяла рабіна з паспелымі пунсовымі гронкамі

Як ні распытвалі гаспадыню хутара, жанчыну гадоў шасцідзесяці, яна глядзела на нас неяк падазрона, з недаверам і толькі пыталася, ці ёсць у Гавязьне магазінная гарэлка. Заставалася сам-насам пастаяць на гэтым боскім месцы, угледзецца ў яго, запомніць. Сумнення не было, мы з Цімохам стаялі каля вытоку Гавязьнянкі, якой няма і якая нібыта ёсць. Я паглядзеў на сына, яго задумёнасць не падалася мне змрочнай. Воблакі ў вышыні, здалося, спыніліся разам з намі. Касмічныя люстэркі зямнога свету, яны заўжды скіраваныя на нас, у іх люструецца чалавечая памяць.



*1983 — 1994 — 1999*



* *меліярацыйныя работы на Гавязьнянцы пасля прыняцця Ахоўнага абавязацельства (кружком пазначана месца разрастання белакапытніку).*

*Лета, 1998*

* *“...там, за каналам, мой сенакос. Адзін асот, каб вы паглядзелі. Зямельку нашу асушылі, а рэчка была — звялі...” (жыхар вёскі Вязавец, былы калгасны кіроўца спадар Барысевіч)*

*Фота аўтара. Ліпень,1999*



## НАТУРА NATURE



**З 20 тысячаў фатаграфій** — удзельніц прэстыжнага міжнароднага конкурсу **“Фота-1998”** – лепшым названы здымак Манфрэда Дэнеджэра з Нямеччыны. Ягоны аб'ектыў надзвычай удала схапіў момант, калі зайцы спрабуюць адзін аднаго “накаўтаваць”. Заспеты зайцовы бокс выклікаў сярод знаўцаў гарачыя дыскусіі, пад якімі, паводле часопіса Network 21 можна ўжо ставіць апошнюю рысу: права быць каханкам трэба заслужыць, гэта значыць, што самка-зайчыха, якая прысутнічае падчас бойкі, выбірае ўдалага, спрытнага й дужага прэтэндэнта на працяг зайцовага роду. Сюжэт, падгледжаны ў прыродзе, уражвае бездакорнасцю выявы і дае кожнаму аматару фотапалявання штуршок да дзейнай творчасці: шанец здабыць свой “трафей” заўжды застаецца.

Фота з часопіса Network-21, вясна 1998

Узнагароды

## Вугры, што вяртаюцца ў норы свае

Міжнароднае журы назвала ўладальніка **Гран-Пры-99** еўрапейскага конкурсу Генры Форда. З трыццаці трох праектаў, якія перад гэтым выйшлі пераможцамі ў сваіх краінах і былі дапушчаныя ў "фінал" (з Беларусі выдавецкі праект "Газета "Белавежская пушча"), самым лепшым названы праект з Югаславіі прафесара Хрыстоўскага. Цырымонія ўручэння адбылася ў нямецкім горадзе Аахен.

Возера Охрыд, што на тэрыторыі Македоніі (Балканская паўвыспа), адметнае не толькі сваёй прыгажосцю, але й месцам, дзе адвеку сялібуюць вугры. Менавіта адсюль пачынаецца шлях іх вясельнае вандроўкі ў бок Саргасава мора, да месцаў размнажэння. *"Гэта цікавая, шмат чым загадкавая і поўная драматызму з'ява ў экалогіі Еўропы,* — гаворыць прафесар.— *Мы са студэнтамі даўно адсочваем міграцыйную эпіку вугроў, каб ахаваць папуляцыю ў часе іх качаванняў, якія ад пачатку і да вяртання вугроў у возера займаюць два поўныя гады. Мы робім усё магчымае, каб вугровае возера заставалася такім заўсёды і каб рыбы маглі вяртацца ў свае норы, адкуль яны выйшлі насустрач інстынктам прыроды."*

Дзеля гэтага македонскі вучоны разам са сваімі супольнікамі вынайшлі ўдалую канструкцыю дамбы, мадыфікацыя якой зябеспечвае больш эфектыўнае і таннае вырашэнне праблемы міграцыі вугроў і іх спадарожнікаў. Іхнія намаганні адзначаны першай прэміяй конкурсу, сума якой сёлета склала 100 тысяч долараў.

**Другая** фордаўская прэмія 1999 года адправілася ў Францыю. Ею адзначаны праект па аднаўленні сістэмы старых сажалак і вырошчванні ў іх малявак..



**Трэцяй** прэміяй конкурсу ганараваны праект, які ажыццяўляе адна з нарвежскіх школ, — дзеці ад малодшых да старэйшых класаў заўзята кампастуюць бытавыя адходы, фасуюць у пакеты і нават добра зарабляюць на іх продажы.

Удзельнікам імпрэзы ўручана адмысловая відэакасета з фільмам пра пераможцаў прэстыжнага экалагічнага конкурсу. Ёсць яна і ў рэдакцыі "Белавежскай пушчы".
*Уласная інфармацыя.*

* *французскія хлопчыкі — удзельнікі праекта "Тысяча сажалак для развядзення малькоў на наступнае тысячагоддзе" (другі прыз конкурсу).*
*Фота: Неруш-прэс*

Конкурсы

## Мар'ян Міхалік назваў конкурс бібліятэк першым крокам да выканання Орхускай канвенцыі

Брэсцкі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя адзначыў лепшых сваіх актывістаў сярод бібліятэкараў, якія ўмела і творча шчыруюць у справе экалагічнага выхавання і пашырэння ведаў аб прыродзе роднага краю сярод жыхароў вобласці. Месцам ганаравання пераможцаў абласнога тура рэспубліканскага конкурсу стала Белавежская пушча.

Намеснік старшыні камітэта Мар'ян Міхалік назваў гэтую катэгорыю культработнікаў патэнцыяльнымі "орхусцамі". Рэч у тым, зазначыў ён, што *доступ да экалагічнай інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, якія закранаюць навакольнае асяроддзе, з'яўляецца надзённай неабходнасцю і адным з патрабаванняў Орхускай канвенцыі. Яе выкананне шмат залежыць і ад асяродкаў культуры, якія працуюць з насельніцтвам. Мы зрабілі агляд сіл і ацанілі лепшых, наладзілі зваротную сувязь і вызначыліся ў напрамках супрацоўніцтва. Маем намер выдаць зборнік лепшых сцэнарна-метадычных матэрыялаў бібліятэк-пераможцаў па экалагічнай тэматыцы. Агляды-конкурсы й надалей будуць адным са сродкаў выяўлення і заахвочвання эфектыўнай работы ў гэтым напрамку,* падкрэсліў Мар'ян Міхалік.
*Уласная інфармацыя.*

Перспектыва

## Шануй сваё!

Найбольш верагоднай перспектывай развіцця будучыні шматлікія аналітыкі бачаць умацаванне ўсіх дзяржаўных межаў і бар'ераў, вяртанне да нацыянальных традыцый, павышэнне ролі духоўнай культуры народаў. Прадказваецца, што будзе ўсё гэта адбывацца на фоне глыбокай дэглабалізацыі эканомікі і распаду сусветнага рынку. Словам, як з гэтага вынікае, спадзявайся на сябе, але май паблізу добрых надзейных саюзнікаў.

Тымчасам, паводле штогадовага Даклада па развіцці чалавека за 1999 год, падрыхтаванага незалежнай групай экспертаў Праграмы развіцця ААН, за апошнія 10 гадоў жыццё насельніцтва 85 краін свету пагоршылася. Гэта пры тым, што тэмпы нарошчвання матэрыяльнага багацця на планеце надзвычай вялікія. *Крыніца: беларускі і замежны друк.*

Помнікі



## "Пашпартныя" звесткі цар-дуба можна даўно змяшчаць на лепшыя старонкі Інтэрнету. Каб захапляць і здзіўляць свет

*Узрост.* За 800 гадоў.

*Крона.* Сягае вышыні чатырнаццаціпавярховага дома. Гэта больш як 50 метраў ад зямлі. А камель абхапіць не змогуць і тры чалавекі – дыяметр перавышае два метры.

*Месца.* Маларыцкі раён, ваколіцы вёсак Арэхава й Вялікарыта, у невялікім аддаленні ад Белавежскіх лясных абшараў (адлучаны часам стагоддзяў?).

Цар-дуб меў вялікае мноства знаёмстваў. На яговых ўлонкі прыходзілі і сыны Айчыны – абаронцы родных абшараў, і заваёўнікі гэтай зямлі. Кажуць, пад ім, ужо магутным патрыярхам, сядзеў прышэлец Сувораў, калі падаўляў паўстанцаў-патрыётаў. А значна пазней, праз два стагоддзі мастак Мікола Селяшчук, які нарадзіўся і ўзрос, лічы, у пошуме гэтага дуба, здабыў высокую славу беларускага жывапісца, найадметнага выказніка роднага краявіду. Здаецца, усе яговыя працы маюць свой сімвалічны адлік ад волата-дуба, глядзяць на нас вачыма беларускай прыроды, ціхай і мудрай.

* *800-гадовы дуб у ваколіцах Арэхава (Пажэжынскае лясніцтва).*
*Фота: з архіва "Неруш-прэс"*

Маніфест

## Не разбураць!

Маніфесты пісаліся не толькі з нагоды "блукаючых прывідаў", новых мастацкіх плыняў або дэмакратычных рэформаў. Гэта красамоўна пацвердзіў і аўтар нашай газеты, незалежны экалагіст з Турава Міхал Козел. Свой *"Зялёны маніфест"* ён пакуль што разаслаў аднадумцам. Калі будзе пастаўлена апошняя кропка, рэдакцыя надрукуе тэкст цалкам. А пакуль што дзве цытаты:

*"Запаведваючы тую ці іншую тэрыторыю, чалавек бярэ на сябе адказнасць ажыццяўляць трыумф прынцыпу – НЕ РАЗБУРАЦЬ! Для яго рэалізацыі не трэба нічога звышнатуральнага. Неабходна толькі прызнаць, што любое наша ўмяшанне ў прыроду – непазбежна яе разбурае. Нават калі намеры й добрыя. Прырода не розніць эмоцый альбо намераў, яна рэагуе на ўчыненыя дзеянні. Прычым непазбежна, і амаль заўсёды – непрадказальна".*

*"Не варта зрывацца на алярмізм. Трэба паслядоўна і сістэмна пра-*

*цаваць. Па крупінках ствараць механізм грамадскага кантролю за дзяржавай, у прыватнасці, за ейнымі дзеяннямі на запаведных тэрыторыях". Уласная інфармацыя.*

**А**пакаліпсіс

## Паважны палітык пасцеражэцца...

Былая жонка нямецкага канцлера Герхарда Шродэра, заснавальніца грамадскай гуманітарнай асацыяцыі "Паратунак", Хілтруд Шродэр (да 1977 года старшыня вядомага фонда "Дзецям Чарнобыля") падкрэсліла ў інтэрв`ю "Беларускай газеце", што забеспячэнне краіны няшкоднай энергіяй ёсць палітычным аспектам. Сп. Хілтруд жыве ў мястэчку Імензен непадалёку Гановера і не збіраецца рабіць палітычную кар`еру, цалкам аддаючыся дзейнасці "трэцяга сектара".

*"Прыканцы 70-х я далучылася да руху супраць атамнай энергетыкі,— сказала яна, — бо гэтая тэхналогія ўзбуджала страх. Займаючыся праблемай, я ведала, што захворванні з прычыны павышанай радыеактыўнасці пакажуць сябе колькі гадоў пасля. Так яно й сталася. Толькі ў 90-я гады былі атрыманы звесткі пра такія сур`ёзныя захворванні як, напрыклад, рак шчытападобнай залозы. Прычым, гэтыя звесткі — пераважна з Беларусі. Тады я пачынала ініцыятыву ў дапамогу людзям. Кожны раз, калі я выступаю з дакладамі, працую па зборы ахвяраванняў, у падтэксце гучыць і палітычны аспект. Трэба, з аднаго боку, дапамагчы пацярпелым ад аварыі, з другой – знайсці магчымасць забеспячэння краіны няшкоднай энергіяй. Беларусь не мае сваіх АЭС, але з усіх бакоў акружана старымі атамнымі электрастанцыямі — на мяжы з Украінай, Расіяй." Крыніца: "БГ" ад 21 чэрвеня 1999.*

**А**льтэрнатыва

## Працэс развіцця новай энергетыкі павінен быць паскораны

На думку экспертаў сусветна вядомай грамадскай арганізацыі *Грынпіс* на бліжэйшыя дзесяць гадоў (да 2010) паўстане неабходнасць рашучага паскарэння працэсаў энергетычнай рэвалюцыі. Абвешчаны два ключавыя прынцыпы рэвалюцыйных зменненняў: скарачэнне забруджвання атмасферы вуглякіслым газам у выніку спальвання выкапнёвага паліва (перш-наперш краінамі Поўначы) і адчувальны зрух да змяншэння стратаў энергіі і энергазберажэння як неад'емнай часткі ў структуры дзейнасці кожнага прадпрыемства, фірмы, кампаніі.

Нам патрэбны:

— прыняцце цвёрдых правілаў па энергазберажэнні;

— гарантыя, што планаванне энергетыкі будзе стаяць на скарыстанні ўсіх магчымасцяў эканоміі энергіі, а ўжо затым на будаўніцтве новых электрастанцый,

— паскарэнне развіцця й пашырэнне практыкі выкарыстання чыстых узнаўляльных крыніцаў энергіі,

— спыненне пошукаў і распрацовак новых месцарадовішчаў выкапнёвага паліва, замест яго – планаванне развіцця энергазберажэння і выкарыстання чыстых відаў энергіі,

— увядзенне высокіх штрафаў, якія б адпавядалі рэальнаму кошту ўрону ад забруджвання навакольнага асяроддзя, а таксама значнае падвышэнне цэнаў на "брудную" энергію з адначаснымі датацыямі для "чыстай",

— падваенне ўрадавага субсідавання даследаванняў па энергетыцы з пераарыентацыяй іх на энергазберажэнне й выкарыстанне крыніц чыстай энергіі,

— змяненне палітыкі міжнародных банкаў, узмацненне з іх боку падтрымкі праектаў па развіцці толькі чыстай энергетыкі,

— пераарыентацыя часткі ваенных бюджэтаў на развіццё крыніц чыстай энергіі,

— стварэнне новай міжнароднай арганізацыі, якая б спрыяла хуткаму развіццю і ўкараненню чыстых энергетычных крыніц і захадаў па энергазберажэнні.

Стыль жыцця, заснаваны на высокім узроўні энергаспажывання, несумяшчальны з сапраўднай энергетычнай бяспекай, падкрэслівае Грынпіс. *Крыніца: "Глабальная энергетычная бяспека", інфармацыйны праспект, "Грынпіс", 1998.*



** вадзяны млын на рэчцы Міранцы. Карэліцкі раён, 1981. Фота: Віталь Прошча*

**З**ялёны фронт

## Семінар у Шацку

Ролі зялёных недзяржаўных арганізацый Украіны і Беларусі ў вырашэнні пытанняў *сённяшняга стану басейнаў Дняпра, Прыпяці і Заходняга Буга* быў прысвечаны сумесны трохдзённы семінар у Шацку (Валынская вобласць). Выпрацавана праграма дзеянняў абодвух бакоў па аднаўленні і захаванні поймавых асяродкаў, іх біятычнай разнастайнасці, кантролю якасці вады, узмацненню асветніцкай працы на месцах, асабліва з прыахвочваннем моладзі й школьніцтва. Гаспадары семінара — грамадская арганізацыя "Зелені світ" – адзначылі высокую актыўнасць і грунтоўнасць намераў сваіх беларускіх калег. Зялёныя з Брэста, Гомеля, Турава, Мінска і Магілёва ўважылі сустрэчу як прарыў ва ўзаемадачыненнях украінскага і беларускага экалагічных рухаў. Госці пазнаёміліся з дзейнасцю нацыянальнага парка "Шацкія азёры", ахаладзіліся ў чыстым і светлым возеры... Свіцязь (ёсць такое і на Украіне, толькі большае). *Уласная інфармацыя.*

**У**ражанні

## Сюжэт, які ўскалыхнуў грамадства

Гомельскі навуковец і вядомы экалагіст, ачольнік грамадскай арганізацыі "Зялёны клас" Генадзь Каропа вярнуўся з Канады, дзе падвышаў кваліфікацыю эксперта-псіхолага ў рамках міжнароднай экалагічна-адукацыйнай праграмы. Адно з яго ўражанняў мы й занатавалі падчас беларуска-украінскага семінару ў Шацку:

*-- Уявіце, гэта дзве хвіліны тэлеэфіру, не болей. Так званы ролік. На подыюм выходзіць мадыстка і дэманструе футра. На ёй, здаецца, чорная ліса. Пыха. Раскоша. Бляск валасінак. Некалькі лёгкіх эфектных рухаў і футра з жаночых плячэй падае на зямлю. Адбываецца жудасна адваротнае. Футра пачынае курчыцца ў перадсмяротных канвульсіях і крывавіць. Боль і жудасць. Пах жывадзёрні. Мадыстка з прыгожымі доўгімі нагамі сыходзіць, а за ёю сцелецца свежы крывавы след... Сюжэт уражвае. Я быў глыбока ўзрушаны тым, што бачыў. Праз гэты сюжэт, на думку канадскіх псіхолагаў, збольшага ўдаецца хоць неяк запыніць грамадскую свядомасць, павярнуць вачыма да экалагічных катаклізмаў, да балючых канвульсій, якія зведвае жывая прырода,* сказаў Генадзь Каропа. *Уласная інфармацыя.*



** жывая ліса на "подыуме" Белавежскай пушчы. Люты, 1982. Фота: Уладзімір Дацкевіч (в.Камянюкі). З архіва "Неруш-прэс".*

SUMMARY

**T**he Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.

**М**аю гонар!

## Трэба ж! Газета "Белавежская пушча" трапіла ў... "пушчанскі фельетон"

Менавіта так – "пушчанскі фельетон" — вызначыла жанр сваёй публікацыі абласная газета "Заря" (г.Брэст). Яе аўтар, былы намеснік дырэктара нацыянальнага парка па навуцы Вячаслаў Семакоў, згадваючы вялікага камбінатара Астапа Бэндэра, ставіць побач з ім вытворцаў ліпавых, на погляд Семакова, напояў, што з мэтай рэкламы выназходліва скарыстоўваюць белавежскі кантэкст. Маўляў, гоняць звычайнае "моцнае зелле", а на этыкетках пішуць, што яно – ледзь не з пушчанскіх гаючых крыніц. Здавалася б,



добрая тэма, як кажуць, праблема ёсць. Аднак, паздзекваўшыся ўсмак з аматараў "ліпатворчасці", В.Семакоў піша: *"А нядаўна яшчэ пра адну "пушчанскую" навіну, зноў жа, з прэсы дазнаўся. Аказваецца, нейкая малавядомая газета, зухавата называючы сябе "Белавежская пушча", узяла дый сталася пераможцам нейкага конкурсу, які субсідуецца ці то далёкімі, ці то блізкімі сваякамі самога Генры Форда. У газеце пра Пушчу адна крыха, але журы і гэты раз не здолела ўстаяць супраць такой эфектнай назвы, што ўслаўляе сусветна вядомы лясны абшар"* (пераклад з рускай – **рэд.**)

Толькі й застаецца прыгадаць, што аўтарам "малавядомай газеты" быў сам Вячаслаў Васільевіч, а ў Еўрапейскім конкурсе Генры Форда *"За захаванне культурнай спадчыны і навакольнага асяроддзя"*, магчыма, таксама браў удзел, таму, здавалася б, здольны ацаніць ягоную значнасць для Беларусі.

Але ці варта пашыраць каментарый, даволі засведчыць сам факт: фельетаніст В.Семакоў заспеў газету ў "ліпатворчасці", знайшоў у ёй адно што -- "эфектную назву". Зрэшты, падставаў для крыўды ў нас няма. Як кажуць, што ні галава... Дый сам аўтар фельетона даволі крытычна паставіўся да таго, што сам напісаў. *"Эк меня занесло, однако"* – піша ён прыканцы.

Занясло, Вячаслаў Васільевіч, занясло... *Уласная інфармацыя.*

** фотакампазіцыя англійскіх дызайнераў, што прадстаўляла выдавецкі праект "Газета "Белавежская пушча" ў г. Аахене падчас прэзентацыі нацыянальных лаўрэатаў прэміі Генры Форда (чэрвень 1999)*

# Пейзажны парк у Князеве

## Сто гадоў таму ён стаў плёнам этыка-эстэтычнага дбання гаспадара-землеўласніка, а сёння Зэльвенскі райвыканкам зацвердзіў праграму захавання, добраўпарадкавання і аднаўлення зялёнага помніка на 1999-2000 гг.



**Пятро Жэбрак,**
*журналіст (райгазета "Праца")*

Паводле звестак, якія ўдалося адшукаць у архіўных ды іншых крыніцах, маёнтак Князева запачаткаваны ў XVI стагоддзі. Быў уласнасцю шляхціцаў Вольскіх, гродзенскіх манашак-брыгітак, ачольваўся дэпартаментам казённых маёнткаў. Доўгі час ім валодаў генерал світы яго Вялікасці гродзенскі губернатар Аляксандр Ельпідзіфоравіч Зураў — кавалер ордэнаў Святой Ганны і Святога Станіслава І і ІІ ступеняў. Ёсць падставы меркаваць, што менавіта А.Зураў і спрычыніўся да закладзінаў парку. На той час ягоны маёнтак налічваў 1570 дзесяцін зямлі. У Гродзенскую вобласць Зуравы пераехалі ўсёй сям'ёй, разам з маці. Апошняй належаў хутар з вадзяным млынам ды сыраварняй непадалёку ад Князева. І гэта не ўсё, чым валодалі заможныя гаспадары.

На канец XIX – пачатак XX ст. Зуравы наладзілі ўзорную сельскую гаспадарку з адмысловай арыентацыяй на жывёлагадоўлю, авечкагадоўлю, мнагапольнае земляробства, вытворчасць сыра, млынарную справу, вінаробства.

Старэйшыя людзі дакладна паказваюць на месца сядзібнага дома. Ён стаяў бакавым фасадам да алеі. Пасля другой сусветнай вайны крыло, у якім жылі гаспадары маёнтка, было перанесена ў іншае месца (цяпер тут сельская бібліятэка).

А як жа сам парк? Што ацалела і чым ён сёння каштоўны? Гэтыя пытанні я задаю начальніку раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Сяргею Мікановічу. Ён распавёў:



КНЯЗЕВА-99

** калі пад'язджаеш да Князева, парк угледзіш здалёку, а перад самым мястэчкам можна з асфальта збочыць на пясчаны прасёлак — так да парка бліжэй*





Фота: Валеры Дранчук

** у парку шмат найпрывабных куточкаў, мілых як для вока, так і для адпачынку, супакаення душы. Аднак пакуль што зялёны помнік нагадвае зарослы кветнік, якому патрэбна кваліфікаваная дапамога і праца руплівых рук. Дай Божа!..*

*--Пейзажны парк у Князеве займае 15 гектараў зямлі, мае багатую гісторыю землеўладання, першнаперш з пункту гледжання этыка-эстэтычнага дбання гаспадароў і, апроч гэтага, каштоўны сваім дэндралагічным складам. Сёння тут расце 25 відаў дрэў і шэсць – кустоўя. Ёсць рэдкія віды ліпы – дробналістая букетная, амерыканская, буйналістая, вінаградалістая, а таксама чатыры віды клёнаў — вострасталістая, вострасталістая Швэдара, серабрысты, серабрысты Віера. Добра прыжыліся тут кедравая сасна, чырвоны дуб, чаромха Магалеўская, чорная сасна, амерыканскі вяз і іншыя.*

*Парк пасаджаны пераважна ў другой палове 90-х гадоў XIX стагоддзя – гэта значыць, яму акурат 100 гадоў. Да такіх юбіляраў трэба ставіцца з пашанай і клопатам. Хоць парк у нечым змяніўся, аднак яшчэ ёсць магчымасць з вялікай доляй дакладнасці ўзнавіць ягоныя*



*формы з захаваннем першапачатковай планіроўкі.*

Да слоў Сяргея Іванавіча варта дадаць, што адпаведнікі такіх паркаў ёсць як у Гродзенскай вобласці — парк *"Руткавічы"* (Шчучынскі раён), *"Вердамічы"* (Свіслацкі), так і ў іншых кутках блакітна-зялёнай Беларусі – парк *"Парэчча"* (Пінскі раён), *"Манькавічы"* (Столінскі), парк *Радзівілаўскай сядзібы* ў Нясвіжы, *Гомельскі* парк і шмат іншых.

Зэльвеншчына, дарэчы, прываблівае ахвотнікаў прыроднага ўлоння і сваім штучным возерам, збудаваным зусім нядаўна – у 1995 годзе. Вадасховішча *"Зэльва"* займае 1.190 гектараў і змяшчае 28 мільёнаў кубічных метраў "блакітнага багацця". Прызначалася возера для збору вады ў веснавую паводку ды абваднення земляў, што ў пойме ракі Зальвянкі ніжэй вадасховішча, а таксама дзеля мэтаў культурнага побыту і на выпадак пажараў. Хоць пакрысе яно і мялее.


SUMMARY

***L**andscape garden, in a small town Knyazeva, Grodno region, is celebrating its 100 anniversary. Local authorities are trying to arrange and restore it by the end of 2000.*


**Пейзажны парк,** англельскі парк, "натуральны сад", (анг.Landscape garden) – парк з маляўнічай планіровачнай кампазіцыяй, створанай як перайманне жывой прыроды. Асаблівасці П.п. – звілістыя алеі і сцежкі, адвольныя формы сажалак, каналаў, зялёных пасадак, лужкоў, асіметрычная кампазіцыя, непрадказальная змена відаў і г.д. Расліны ў П.п. знаходзяцца ў сваім натуральным стане, што ёсць адрозненнем ад рэгулярнага парка, дзе ім надаюцца геаметрычна-правільныя формы. Істотнаю рысаю П.п. з'яўляецца арганічнае залучэнне яго ў навакольны краявід.



* пейзажны парк у Нясвіжы, 1996

П.п. узнік у Англіі на рубяжы 17-18 стст. як рэакцыя на фармалізаванасць і жорсткасць кампазіцыі рэгулярных паркаў. Догляд за П.п. таннейшы, чым за рэгулярным, што пашырыла ягоную папулярнасць ва ўмовах паўсюднай перабудовы сядзібаў. Ідэалагічным грунтам нараджэння П.п. было асветніцкае вучэнне аб "натуральным чалавеку" і ягоным зліцці з прыродай, распрацаванае ў Вялікабрытаніі філосафамі ды эстэтыкамі А.Шэфісберы, Дж. Локам, Дж. Адзісанам, Ф.Хатчэсанам.

Сярод формаў П.п. можна вылучыць: раннія маляўнічыя сады, што паўставалі ў невялікіх сядзібах, часцей за ўсё прыгарадных; мяшаныя рэгулярна-маляўнічыя паркі; "англа-кітайскія" сады сярэдзіны 18 ст., дзе імкненне паўтараць жывую прыроду спалучалася з цягаю да экзатычных жывёлінаў, уласна-ландшафтныя паркі, дзе надавалася ўвага выяўленню натуральных якасцяў пейзажа, маляўнічы сад, у якім рамантызаваныя вобразы пейзажа абагачаліся рознастылёвымі павільёнамі.

Стварэнне ў Англіі П.п. паспрыяла фармаванню новага, вольнага ад фармальных схем і рэгулярных камапазіцый, мастацкага мыслення, змяніла адносіны чалавека да прыроды.

**Паводле:** *тэрміналагічны слоўнік "Апалон"* ( Масква, Эліс лак, 1997)


БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валеры Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыіі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*
Summary: *Наталля Барадаўка*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53



Аўтары маюць поўнае права называць рэчы сваімі імёнамі, гаварыць адкрытым тэкстам, але нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.



Газета надрукавана ў прыватнай друкарні "Мэджык" (Мінск, вул. В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 16.08.99 Замова № 1005
Кошт свабодны. У шапіках "Саюздруку" 60.000 руб.

"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Lowing Newspaper. Motto: With Lowe To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency "NERUSH-PRESS" Contact: 220088 Miensk Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76